

**Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4910) 17 лютага 2017 г.


Кірмаш кніг і ідэй 4-6


Дзве душы беларуса 7


Прозы патрыцый, паэзіі князь 10


Беларускі Разенталь 11


Убачыць свае «Сляды…» 14

# Прыгажосць перадусім

## *Гран-пры 56-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» атрымала факсімільнае выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны».*



Фота Надзеі Бужан.

*Гран-пры 56-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» за факсімільнае выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раману Матульскаму (злева) і дырэктару кампаніі «Калекшн» Канстанціну Вашчанку (справа) уручыў сустаршыня журы конкурсу, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна.*

**Айчынная выдавецкая галіна і ў краіне, і ў міжнароднай супольнасці традыцыйна адзначаецца за захаванне высокай культуры кнігі. Таму і Нацыянальны конкурс «Мастацтва кнігі», што ў нашай краіне прайшоў вось ужо 56-ы раз, засведчыў: беларусы шануюць кнігу, чытанне, нашы нацыянальныя каштоўнасці, якія знайшлі ўвасабленне ў літаратуры. Так, на цэнтральнай пляцоўцы Нацыянальнага стэнда Рэспублікі Беларусь былі ўганараваныя 38 самых адметных кніг, а таксама мастакі і дызайнеры, якія прадставілі самыя прыгожыя выданні. Урачыстая цырымонія прайшла падчас XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. «Калі ў краіны такое паважлівае стаўленне да кнігі, яна мае выдатную будучыню», — адзначыла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.**

**Адметна, што цырымонія падвядзення вынікаў конкурсу сабрала не толькі спецыялістаў галіны, але і многіх аматараў прыгожай кнігі. Сярод іх — Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч.**

**Пра імкненне зрабіць кнігу не толькі цікавай, але і знешне прывабнай разважаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. А пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак распавёў, што многія кнігі, якія сёлета атрымалі ўзнагароды конкурсу, былі афармленыя маладымі мастакамі.**

**Сімвалічна, што конкурс «Мастацтва кнігі», які праходзіць пад патранатам Міністэрства інфармацыі, сёлета быў асветлены зоркай Францыска Скарыны. Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання тут прадстаўленая намінацыя «Першадрук». Яе пераможцам стала кніга Анатоля Цітова «Шляхамі Францыска Скарыны», што пабачыла свет у выдавецтве «Народная асвета». У гэтай жа намінацыі адзначаныя адразу два праекты «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі». Так, дыплом I ступені атрымала трохтомная дзіцячая энцыклапедыя пра першадрукара, падрыхтаваная намеснікам дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі, кандыдатам культуралогіі Алесем Сушам, а спецыяльны дыплом прысуджаны кнізе «Спірыдон Собаль і вытокі магілёўскага кнігадруку». Не застаўся без увагі і праект выдавецтва «Мастацкая літаратура» «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка»: ён атрымаў дыплом II ступені.**

**Тэма 500-годдзя беларускага кнігадрукавання прагучала і ў намінацыі «Садружнасць», дзе адзначаюцца найлепшыя сумесныя выдавецкія праекты ў межах СНД. Тут пераможцам стала кніга Алеся Сушы «Францыск Скарына — чалавек свету».**

**Заўважыла кампетэнтнае журы і кнігі, што пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда». Дыплом I ступені ў намінацыі «Літ-фармат», дзе адзначаюцца найпрыгажэйшыя літаратурна-мастацкія выданні, атрымала кніга Міколы Мятліцкага «Скарб бяздонны», а ў намінацыі «Арт-кніга» — найлепшы выдавецкі праект па мастацтве — дыплом II ступені прысуджаны альбому «Рукою майстра. Творчасць мастакоў Міншчыны».**

**Па традыцыі былі названыя пераможцы конкурсу ў персанальных намінацыях. «Найлепшым ілюстратарам» стаў Павел Татарнікаў, а «Найлепшым дызайнерам кнігі» — Дзяніс Раманюк.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў Палацы Незалежнасці правёў сустрэчу з галоўным рэдактарам газеты «Народная воля» Іосіфам Сярэдзічам. Галоўны рэдактар «Народнай волі» звярнуўся да кіраўніка дзяржавы з просьбай аб асабістай сустрэчы падчас «Вялікай размовы з Прэзідэнтам», якая ладзілася ў Мінску 3 лютага. Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў гатоўнасць абмеркаваць усе актуальныя пытанні, у тым ліку праблемнага характару.

✔ Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА на сваім пасяджэнні падтрымала ініцыятыву Беларусі аб унясенні ў спіс ансамбля праспекта Незалежнасці г. Мінска ў якасці серыйнай трансгранічнай намінацыі "Пасляваенная сацыялістычная архітэктура краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы». Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў. Акрамя таго, будзе працягвацца праца па беларускім нацыянальным дасье «Будслаўскі фэст», «Культура дуды», у больш далёкай перспектыве — «Лясное бортніцтва». Падчас пасяджэння абмяркоўваліся і прыярытэты дзейнасці тэматычных камітэтаў камісіі ў кантэксце святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Гэты знакавы юбілей унесены ў спіс памятных дат ЮНЕСКА: разам з беларусамі яго адзначае ўся міжнародная супольнасць.

✔ Выстаўка «Радзівілы: лёсы краіны і роду», якая ўключае жывапісныя і графічныя партрэты, мініяцюры, медалі, мастацкія тканіны з калекцыі Мацея Мікалая Радзівіла, пачала працаваць у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Род Радзівілаў істотна паўплываў на гісторыю нашай краіны, а яго нашчадкі актыўна працягваюць традыцыі дабрачыннасці і мiратворчасці. Прадстаўляючы агульнае гістарычнае мінулае, выстаўка мае на мэце далейшае ўмацаванне культурных сувязяў з украінцамі, літоўцамі, палякамі.

✔ Выстаўка «*Belart.by*. Маладыя мастакі Беларусі» адкрылася ў Маскве ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя, графічныя і скульптурныя работы маладых аўтараў з Беларусі. Праект падрыхтаваны Нацыянальным цэнтрам сучасных мастацтваў Беларусі.

✔ У Тэль-Авіве (Ізраіль) адбылася XXIII Міжнародная Міжземнаморская турыстычная выстаўка-2017 — галоўная турыстычная падзея на Усходнім Міжземнамор'і. Сёлета былі прадстаўлены 55 краін свету, у тым ліку Беларусь. Калі летась вялікі інтарэс выклікала Белавежская пушча, то цяпер у цэнтры ўвагі — Гродзенская вобласць і Аўгустоўскі канал. Больш за ўсё ўдзельнікаў і наведвальнікаў выстаўкі цікавіў аздараўленчы турызм, які актыўна развіваецца ў нашай краіне.

✔ Прэм'ера камедыі Мальера «Хітрыкі Скапэна» адбудзецца ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа 18 і 19 лютага. «Нельга апускаць рукі, калі жыццёвыя абставіны складваюцца супраць цябе, і вельмі добра, калі знойдзецца чалавек, у якога можна знайсці падтрымку», — так ахарактарызавала галоўную ідэю рэжысёр спектакля Ірына Цішкевіч. Яна перакананая, што камедыя абавязкова павінна быць на сцэне нават самых сур'ёзных тэатраў.

# Адчуць сябе майстрам XVI стагоддзя

Што здзівіла гасцей на XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы? Даўжэзная — на палову выставачнага комплексу — чарга па аўтографы да нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч, друкарскі варштат, на якім кожны ахвотны мог надрукаваць першы аркуш Скарынавай Біблії... Прыкметнае месца на сёлетняй выстаўцы займалі беларускамоўныя выданні, прадстаўленыя на стэндах дзяржаўных і прыватных айчынных выдавецтваў. Пляцоўкі Польшчы, Літвы, Чэхіі, Швецыі і Ізраіля таксама сустракалі гасцей беларускімі кнігамі — перакладамі вядомых твораў мастацкай літаратуры.

Каля 55 тысяч наведвальнікаў прыйшлі на выстаўку, каб сустрэцца з айчыннымі пісьменнікамі, узяць удзел у конкурсах і майстар-класах, знайсці «сваю» кнігу ў шырокім асартыменце мастацкай, навуковай, дзіцячай літаратуры. Да таго ж усе цікаўныя маглі вызначыцца з выбарам моўных курсаў, зрабіць адмысловую «аўграграму», пазнаёміцца з карэйскім пісьмом і атрымаць скрутак з замоўленым словам, напісаным на рысавай паперы.

У цэнтры ўвагі знаходзіўся стэнд Вялікабрытаніі — ганаровага госця сёлетняй выстаўкі. Фотаздымкі ля знакамітай тэлефоннай будкі ці побач з усмешлівым хлопцам у шатландскім касцюме ўпрыгожылі нямала старонак у сацыяльных сетках. Да таго ж на стэндзе можна было даведацца пра адукацыйныя праграмы для замежнікаў, згуляць у моўныя вiктарыны, папрактыкавацца ў складанні пазлаў і, вядома, здзейсніць даўнюю школьную мару — паразмаўляць з «сапраўднымі» брытанцамі, якія рэагавалі на моўныя памылкі больш добразычліва, чым настаўнікі.

— Мова патрэбна, каб людзі паразумеліся, і вельмі прыемна, што мінская кніжная выстаўка дапамагае людзям зразумець адзін аднаго, — адзначыў Мэл Роджэрс, арганізатар курсаў англійскай мовы *Online class*. — Тут шмат кніг, шмат наведвальнікаў, шмат прадстаўнікоў розных краін. Беларусы хочуць больш ведаць пра іншыя краіны і іншых людзей, а замежнікі хочуць больш ведаць пра Беларусь — і гэта вельмі істотна!

Цікавыя сустрэчы і прэзентацыі адбываліся на стэндах розных краін — але галоўнае, што сярод шматлікіх прапаноў не згубілася сваё, беларускае. Не меншая чарга, чым да друкарскага варштата, цягнулася да стэнда, дзе Уладзімір Арлоў падпісваў кнігу «Айчына. Ад Рагнеды да Касцюшкі», створаную разам з мастаком Паўлам Татарнікавым. Маленькім наведвальнікам надзвычай спадабалася тэатралізаваная прэзентацыя кнігі Алены Масла «Мяне завуць Лахнеска», а аматары мастацкай літаратуры з задавальненнем фатаграфавалі Алеся Разанава і Людмілу Рублеўскую. Непасрэдныя сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і новымі кнігамі надоўга падмацоўваюць нашу цікавасць да літаратуры, да свету творчасці і ведаў!


Фота Яўгена Пясецкага.
Варштат XVI стагоддзя.

Галоўнай атракцыяй выстаўкі быў друкарскі варштат, узноўлены Уладзімірам Ліхадзедавым па старых гравюрах і літаграфіях. Вядомы гісторык і калекцыянер заўсёды цікавіўся развіццём беларускага пісьменства і кнігадрукавання, таму і ўзнавіў варштат XVI стагоддзя, адпаведны таму, на якім друкаваліся кнігі Францыска Скарыны. У свеце ёсць усяго некалькі такіх варштатаў, і ўнікальнае прыстасаванне Уладзіміра Ліхадзедава — адзінае на постсавецкай прасторы.

На гэтым друкарскім варштаце было аддрукавана 12 экзэмпляраў аднаўленай Скарынавай Біблії, высока ацэненай спецыялістамі. А падчас XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу кожны наведвальнік мог адчуць сябе майстрам XVI стагоддзя і прынесці дадому дзве старонкі Скарынавай Біблії, надрукаваныя на ільняной паперы, зробленай па тэхналогіі, якой ужо больш за паўтысячы гадоў.

Кніжная выстаўка сталася чацвёртай прэзентацыяй друкарскага варштата ў Беларусі. Узноўленае абсталяванне разборнае, яго можна перавозіць. Уладзімір Ліхадзедаў спадзяецца наведаць са сваёй камандай іншыя святы і мерапрыемствы.

— Мы гатовыя прывезці не толькі друкарскі варштат, але і іншыя прыстасаванні, на якіх можна надрукаваць гравюру альбо літаграфію. Галоўнае, каб былі плошчы і зацікаўленыя людзі. У найбліжэйшы час плануецца стварыць у Вілейцы музей «У пошуках страчанага», дзе будзе вялікая экспазіцыя, прысвечаная беларускаму пісьменству і развіццю кнігадрукавання. Сабрана вялікая колькасць друкавальнай тэхнікі: узноўлены друкарскія варштаты XVI стагоддзя, адрэстаўраваны варштаты XVIII, XIX стагоддзяў. Асаблівасць музея — яго экспанаты будуць дзейнічаць, на кожным станку можна будзе нешта зрабіць, — адзначыў Уладзімір Ліхадзедаў.

Калі меркаваць па цікавасці да варштата, будучы музей не застанецца без наведвальнікаў. І сапраўды, чаму б не стварыць уласную калекцыю з адбіткаў старонак самых значных беларускіх старадрукаў?..

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Круглы стол

# Сяброўства — і ў паэзіі, і ў прозе


Фота Кастуся Дробава.
Падчас пасяджэння круглага стала.

Беларускія літаратурныя часопісы «Полымя», «Маладосць», «Бярозка», «Нёман», «Белая Вежа» — пляцоўка для творчасці не толькі айчынных аўтараў, але і замежных. Падчас пасяджэння круглага стала ў Доме літаратара, прысвечанага нацыянальным літаратурам на старонках айчынных літаратурна-мастацкай перыёдыкі, на гэта звярнула ўвагу творцаў першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах.

На старонках айчыннай літаратурна-мастацкай перыёдыкі можна пабачыць творы Юрыя Іванова (Малдова), Рымы Ханінавай (Калмыкія, Расія), Агагельды Аланазарава (Туркменістан), Ато Хамдама (Таджыкістан) і многіх іншых замежных пісьменнікаў.

Першы сакратар творчай арганізацыі Генадзь Іваноў лічыць, што перыядычныя выданні, у якіх ужо склаліся свае традыцыі, трэба падтрымліваць.

Ёсць традыцыі і ў айчынных выданняў. Так, часопіс «Нёман» рэгулярна друкуе творы расійскіх маладых аўтараў: Андрэя Анціпіна, Андрэя Цімафеева, Алены Тулушавай ды іншых. Ёсць тут і пастаянная рубрыка «"Всемирная литература" в "Немане"». У рэдакцыі часопіса «Полымя» склаліся трывалыя творчыя стасункі з казахскім літаратурна-мастацкім часопісам «Простор». А жнівеньскі нумар «Маладосці» штогод прымяркоўваецца да Дня беларускага пісьменства, друкуючы творы гасцей свята.

Беларускую літаратуру ведаюць не толькі ў блізкім, але і ў далёкім замежжы. Паводле прэзідэнта Пакістанскай акадэміі літаратуры Касіма Бугіо (Бугіо Махамада Касіма), у гэтай установе творы замежнай літаратуры перакладаюць на 9 асноўных моў Пакістана. Акадэмія арганізуе семінары, забяспечвае пісьменнікам стыпендыі, дапамагае ў кнігавыданні.

— Нам патрэбна маштабная літаратурная палітра, каб пісьменнікі розных краін маглі творча падтрымліваць адно аднаго, займацца ўзаемаперакладамі, дапамагаць выдаваць кнігі, — зазначыў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. — Але сёння перад пісьменнікам стаіць задача не проста ствараць кнігі, але і спрыяць умацаванню міру на Зямлі.

Творца з Малдовы Юрый Іваноў зачытаў удзельнікам круглага стала прывітальны адрас саветніка Прэзідэнта Рэспублікі Малдова па пытаннях культуры, адукацыі і навукі Міхаіла Шляхціцкі.

Былы пасол Славакіі ў Беларусі Марыян Сэрватка, узгадаўшы славацкія старонкі жыцця славутага песняра Янкі Купалы, перадаў Мікалаю Чаргінцу тэкст пагаднення аб міжнародным супрацоўніцтве паміж саюзамі пісьменнікаў Беларусі і Славакіі.

— Калі аб'ядноўваюцца літаратары розных краін, аб'ядноўваюцца і іх думкі, — упэўнены туркменскі паэт Агагельды Аланазараў.

Паэта і перакладчыка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Міхаіла Хонінава можна назваць родапачынальнікам творчых сувязей паміж Беларуссю і Калмыкіяй. Справу бацькі працягвае дачка, Рыма Ханінава. Яе вершы пераствалыа па-беларуску паэтэса Тацццяна Сівец.

Геаграфія міжнародных пісьменніцкіх стасункаў сёння неабсяжная.

**Яна ЯВІЧ**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Жыццё як праца

Паэт-гумарыст, член СПБ і Беларускага саюза журналістаў, сябар народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова» Міхаіл Уласенка атрымаў медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Узнагароду яму ўручыў намеснік старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Кунцэвіч падчас імпрэзы ў Горацкім раённым гісторыка-этнаграфічным музеі, прымеркаванай да 80-годдзя творцы.

Юбіляра павіталі калегі — супрацоўнікі рэдакцыі абласной газеты «Зямля і людзі» на чале з галоўным рэдактарам Уладзімірам Капузам, дырэктар інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі Аляксандр Чачоткін, старшыня Горацкага раённага камітэта прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Андрэй Панамароў, а таксама супрацоўнікі гісторыка-этнаграфічнага музея, бібліятэк, мясцовыя паэты, сябры, блізкія і родныя юбіляра.

Аповед пра жыццё і творчасць Міхаіла Уласенкі суправаджаўся паказам слайдаў, яго вершамі і песнямі, музычнымі віншаваннямі выхаванцаў Горацкай дзіцячай вакальна-харавой школы мастацтваў (ансамбль «Карусель») і ўзорнай вакальна-эстраднай студыі «Ліра» СШ № 1 г. Горкі, вершамі-прысвячэннямі паэтэс Ніны Кавалёвай, Лідзіі Андрэевай ды іншых.

Міхаіл Аляксандравіч атрымаў ганаровыя граматы Магілёўскага аблвыканкама, камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Магілёўскага аблвыканкама, нагрудны знак Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу за шматгадовую плённую працу ў сродках масавай інфармацыі ды высокі прафесіяналізм. Арыгінальны падарунак юбіляру — каталог-даведнік з апісаннем яго публікацый і артыкулаў пра творчую дзейнасць — падрыхтавалі супрацоўнікі Горацкай раённай бібліятэкі.

Міхаіл Уласенка родам з вёскі Юшкавічы, што на Мсціслаўшчыне. Аўтар паэтычных зборнікаў «Мелочи жизни» (2005), «Базар житейской суеты» (2010), «Вершаплёт» (2016). Міхаіл Аляксандравіч і сёння не кідае літаратурную працу: яго творы з'яўляюцца на старонках абласной газеты «Зямля і людзі», у калектыўных зборніках народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова», часопісе «Вожык».



**Людміла ДЗЕРУЖКОВА**

## ЛіМ-каляндар

**13 лютага** — 100 гадоў з дня нараджэння Рыгора Дзідзенкі (1917 — 1972), беларускага артыста эстрады, заслужанага артыста БССР.

**13 лютага** — 90 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шэхава (1927 — 1999), беларускага артыста балета, народнага артыста Беларусі.

**14 лютага** — 110 гадоў з дня нараджэння Алеся Звонака (1907 — 1996), беларускага паэта, драматурга, перакладчыка, тэатразнаўца.

**14 лютага** — 100 гадоў з дня нараджэння Яўгена Гаробчанкі (1917 — 1947), беларускага акцёра.

**14 лютага** — 80 гадоў з дня нараджэння Міхася Стральцова (1937 — 1987), беларускага празаіка, паэта, перакладчыка, крытыка.

**15 лютага** — 105 гадоў з дня нараджэння Навума Перкіна (1912 — 1976), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, празаіка.

**15 лютага** 95 гадоў адзначае Павел Чабаненка, беларускі дырыжор, педагог, заслужаны артыст Беларусі.

**15 лютага** — 80 гадоў з дня нараджэння Валянціна Рабкевіча (1937 — 1995), беларускага паэта, перакладчыка, мовазнаўца.

**16 лютага** — 115 гадоў з дня нараджэння Рыгора Мурашкі (1902 — 1944), беларускага празаіка, крытыка.

**16 лютага** 60 гадоў святкуе Эдуард Рымаровіч, беларускі мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісец.

**18 лютага** — 105 гадоў з дня нараджэння Кліма Грыневіча (1912 — 1941), беларускага паэта.

**18 лютага** — 95 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Савіцкага (1922 — 2010), беларускага жывапісца, народнага мастака БССР, народнага мастака СССР.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**18 лютага** — *у літаратурны клуб «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 89) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Зэкавым. Пачатак у 12.30.*

**18 лютага** — *на юбілейны творчы вечар паэта Станіслава Валодзькі ў Астравецкую раённую бібліятэку з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым «Шануйце мову як матулю» ў СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13). Пачатак у 11.30.*

**21 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Аляксандрам Вашчанкам, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13). Пачатак у 12.30.*

**21 лютага** — *на свята роднай мовы з удзелам пісьменнікаў Вольгі Шпакевіч і Міхася Пазнякова ў гімназію № 25 (вул. Чырвонаслабодская, 84). Пачатак у 14.30.*

**21 лютага** — *на літаратурнае свята «Кнізе — жыць!» з удзелам празаіка Наталіі Касцючэнка і паэтэсы Аліны Легастаевай у СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на літаратурна-музычную імпрэзу, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у адукацыйна-культурны цэнтр «Лідар» (п. Ждановічы) з удзелам пісьменнікаў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міколам Чарняўскім, якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**22 лютага** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Мінскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на паэтычны спектакль «Кветкавыя ветразі». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**23 лютага** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**22 лютага** — *на прэзентацыю альбома «Любимый город. Кистью и словом» (сумесны праект паэтэсы Таццяны Шульга і мастака Ігара Раманчука) у гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна. Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 лютага** — *на літаратурную сустрэчу «Прыгарнуся да роднай мовы» з удзелам полацкіх пісьменнікаў у Наваполацкую дзіцячую бібліятэку імя С. Маршака. Пачатак у 14.40.*

**20 лютага** — *на літаратурную сустрэчу, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, з удзелам полацкіх пісьменнікаў у Наваполацкую дзіцячую бібліятэку імя С. Маршака. Пачатак у 15.20.*

**21 лютага** — *на літаратурную сустрэчу «Прыпадаем да роднага слова» з удзелам паэтаў Мікалая Балдоўскага, Галіны Загурскай і Пятра Буганава, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у Лепельскую цэнтральную раённую бібліятэку. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Вольгай Русілка, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у кнігарню «Равеснік» (г. Віцебск, Маскоўскі пр-т, 66/1). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 лютага** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Людмілай Кебіч, Ганнай Скаржынскай-Савіцкай і Дзмітрыем Радзівончыкам у Гродзенскі дзяржаўны электратэхнічны каледж імя І. Шчаснага. Пачатак а 9-й гадзіне.*

**20 лютага** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у СШ № 39 г. Гродна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у Гродзенскую спецыяльную агульнаадукацыйную школу-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі зроку. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на сустрэчу з сябрамі Слонімскага літаратурнага аб'яднання імя А. Іверса (кіраўнік — паэтэса Ірына Войтка) пад назвай «Родная мова — цудоўная мова», прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у гарадскую дзіцячую бібліятэку г. Слоніма. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**23 лютага** — *на літаратурнае свята з удзелам гродзенскіх творцаў, прысвечанае Дню абаронцаў Айчыны, на Гродзенскі мясакамбінат. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 лютага** — *на семінар «Асаблівасці літаратурнага працэсу на Магілёўшчыне» ў Магілёўскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**19 лютага** — *на мерапрыемства сумесна з Таварыствам беларускай мовы «Пішам дыктоўку па-беларуску», прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы, у Магілёўскі абласны Палац культуры. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**19 лютага** — *на святочны канцэрт, прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы, у Магілёўскі абласны Палац культуры. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 лютага** — *на тэматычны вечар «Творчая спадчына Алеся Пісьмянкова» ў СШ № 2 г. Быхава. Пачатак у 12.45.*

**21 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Мікалаем Барысенкам і Алесем Казекам у Быхаўскі цэнтр турызму, краязнаўства і экскурсій дзяцей і моладзі. Пачатак а 15-й гадзіне.*

*Дайджэст*

• Брытанскі рок-спявак Дэвід Боўі пасмяротна ўганараваны чатырма музычнымі прэміямі «Грэмі» падчас 59-й урачыстай цырымоніі ўручэння ўзнагарод у Лос-Анджэлесе. Апошні дыск Боўі «*Blackstar*» перамог у намінацыях за найлепшы альтэрнатыўны альбом і за найлепшы інжынірынг некласічнага альбома. Акрамя таго, Боўі перамог у намінацыях «Найлепшы рок-выканаўца» і «Найлепшая рок-кампазіцыя». Статуэтка за найлепшае афармленне альбома таксама дасталася дызайнеру Джонатану Барнбруку, які працаваў над вокладкай і буклетам «*Blackstar*». Яшчэ адным трыумфатарам прэміі стала брытанская спявачка Адэль, якая атрымала статуэткі за найлепшы вакальны поп-альбом («25») і найлепшае сольнае поп-выкананне (песня «*Hello*»). Амерыканская спявачка Беёнсэ стала ўладальніцай 21-й прэміі «Грэмі», на гэты раз у катэгорыі «Найлепшае музычнае відэа» за кліп да песні «*Formation*».

• У Эрмітажы ўпершыню выстаўленая для публічнага агляду шкляніца каралевы Ядзвігі. Як адзначае гісторык Мікалай Нікалаеў, шкляніца магла прысутнічаць на каранацыі Міндоўга. Да сёння ў свеце захавалася 12 падобных рэчаў. Меркавана, што ўсе яны належалі кананізаванай пасля смерці каралеве Ядзвізе, і, паводле легенды, вада ў іх ператваралася ў віно. Адсюль і нямецкая назва серыі — *Hedwigsglaser*, «шкло Ядзвігі». Такога тыпу келіхі і чары з'явіліся ў Еўропе ў часы імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Аттона ІІ. «У Брытанскім музеі гэтыя шкляныя келіхі ставяць у шэраг першай сотні самых важных твораў матэрыяльнай культуры Еўропы, — піша гісторык. — Наш знайшла на Навагрудскім замку экспедыцыя Фрыды Давыдаўны Гурэвіч і перадала для вывучэння ў Эрмітаж». У экспазіцыі келіх паставілі ў асобную вітрыну.

• Пераможцам музычнай прэміі «Ліра-2016» стаў гурт «*J:морс*», а іх песня «Блізка» прызнаная найлепшай песняй года. Узнагароджанне пераможцаў V Рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная музычная прэмія ў галіне папулярнай музыкі "Ліра"» адбылася ў Мінску. У намінацыі «Найлепшая песня на беларускай мове» пераможцам стаў зусім іншы твор — «Гісторыя майго жыцця» групы *NAVIBAND*. Спевакі Саша Нема і Іна Афанасьева названы найлепшымі выканаўцамі Беларусі 2016 года, а Дзмітрый Калдун стаў пераможцам намінацыі «Нашы за мяжой».

• Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала электронную версію кніжнай спадчыны XIV — XVIII стагоддзяў. Лічбавая паўнатэкставая калекцыя прадстаўляе рэдкія і старадрукаваныя беларускія кнігі, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Калекцыя знаходзіцца ў адкрытым доступе. Пакуль яна налічвае крыху больш за 200 найменняў, але праект будзе развівацца, і ў перспектыве «Кніга Беларусі XIV — XVIII стагоддзя» папоўніцца лічбавымі копіямі выданняў, якія захоўваюцца як у НББ і іншых бібліятэках ды музеях Беларусі, так і замежных установ. Аўтар праекта — загадчык аддзела фарміравання электроннай бібліятэкі Віктар Пшыбытка.

# Жыве ў свеце Слова

**Што для пісьменніка час? Тое, што ён выкарыстоўвае, ці тое, што ён узнаўляе? Хтосьці ўзнаўляе, а хтосьці выкарыстоўвае. А пісьменнікі здольныя яшчэ і памнажаць. Да таго ж пісьменнік здольны не толькі дыхаць літаратурай, але і натхняць іншых. Так падчас сімпозіума разважаў турэцкі творца, аўтар гістарычных раманаў Іскандэр Пала. У гэтым сэнсе дзейнасць Францыска Скарыны — крыніца натхнення не толькі для пісьменнікаў.**



Фота Кастуся Дробава.

Падчас Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання як частка сусветнай кніжнай гісторыі».

Скарынава спадчына — сапраўдны скарб, пакінуты для нашчадкаў, паслядоўнікаў. Каб трымалі руку на пульсе часу. Каб ведалі. Нацыянальная бібліятэка Беларусі гасцінна расчыніла дзверы для гасцей ІІІ Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання як частка сусветнай кніжнай гісторыі», які прайшоў у межах XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Форум аб'яднаў прадстаўнікоў 17 краін Еўропы і Азіі, у тым ліку Расіі, Фінляндыі, Італіі, Кітая, Пакістана, Туркменістана, — пісьменнікаў, выдаўцоў, прадстаўнікоў дзяржаўных органаў кіравання, міністэрстваў і ведамстваў. Удзельнікі сімпозіума абмяркоўвалі шмат праблемных пытанняў, якія датычылі постаці Францыска Скарыны ў беларускай і сусветнай культуры, літаратурных узаемасувязей у кантэксце міжнародных агульнакультурных узаемадносін, а яшчэ — функцый літаратуры ў сучасным свеце.

— Мы вельмі цэнім тыя літаратурныя кантакты, гуманітарныя праекты, якія рэалізуюцца нашай краінай сумесна з замежнымі дзяржавамі, — зазначыла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. — Мы ўпэўнены, што ўнёсак Францыска Скарыны ў развіццё кнігадрукавання — гэта не толькі нацыянальная каштоўнасць Беларусі, гэта каштоўнасць усяго свету. Асобы планетарнага маштабу ёсць у кожнай краіны. Гэта наша духоўная апора, наша маральнасць, гістарычная спадчына. Гэта тыя вобразы і вытокі, якія сілкуюць беларускую дзяржаўнасць.

Лілія Ананіч падкрэсліла: Францыск Скарына — чалавек свету. У нашай краіне створаны рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Запланаваная вялікая праграма: форумы, сімпозіумы, круглыя сталы, выстаўкі, канферэнцыі, у тым ліку і за межамі нашай краіны.

Паводле слоў мадэратара сімпозіума, намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Карлюкевіча, пастаянным партнёрам і суарганізатарам форуму з'яўляецца Саюз пісьменнікаў Беларусі.

— Пяцьсот гадоў таму ў беларусаў з'явілася друкаванае слова. З тых часоў палітычная карта свету істотна змянілася, бо разбураліся і ствараліся сотні краін. А слова і літаратура, нягледзячы ні на што, жывуць і будуць жыць. Гэта і ёсць стрыжань стасункаў паміж людзьмі і дзяржавамі, — прывітаў удзельнікаў сімпозіума старшыня СПБ Мікалай Чаргінец.

Прэзідэнт Пакістанскай акадэміі літаратуры Касім Бугіо (Бугіо Махамад Касім) звярнуў увагу ўдзельнікаў форуму на тое, што ў Пакістане гавораць на 74 мовах. У акадэміі літаратуры ёсць аддзел перакладаў, дзякуючы якому ў Пакістане ведаюць творчасць рускіх класікаў: Фёдара Дастаеўскага, Максіма Горкага, Льва Талстога. Спадар Касім Бугіо ўпэўнены: у сучасных сродках масавай інфармацыі слова пісьменніка павінна гучаць як мага часцей.

Таксама стаў госцем сімпозіума фінскі пісьменнік Ціма Парвела. Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет яго дзіцячая кніга «Эла і сябры», якую па-беларуску пераствaрыла Алена Казлова. Гэта вялікі крок наперад у развіцці беларуска-фінскіх літаратурных стасункаў. Сёння ў актыве Ціма Парвела — каля трыццаці кніг, перакладзеных на столькі ж моў. І прадаюцца яны ці не ў 40 краінах свету. А Муртазо Зайніддзінаў з Таджыкістана прадставіў на сімпозіуме цэлае даследаванне пра гістарычныя карані таджыкска-беларускіх літаратурных сувязей!

«Было время, что не было времени, / Будет время — его и не будет...» — гэта радкі з верша расійскага паэта Генадзя Фралова. Так засяродзіўся на праблеме часу першы сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Генадзь Іваноў. Дый увогуле, тэма «Пісьменнік і час» — надзвычай вострая для творцаў усіх пакаленняў.

**Яна ЯВІЧ**

# Маладыя і паспяховыя

На сімпозіуме маладых літаратараў, які адбыўся падчас форуму «Пісьменнік і час», будучым класікам беларускай літаратуры давалі парады тыя, хто ў прафесіі ўжо рэалізаваўся.

Гэтае мерапрыемства было не адным з тых, дзе размаўлялі пра тэорыю. У кожный з чатырох секцый (прозы, паэзіі, перакладаў і крытыкі) працавалі напружана і засяроджана: «разбіралі» творчасць (і творцаў) на прыкладах, аналізавалі і раілі. Юлія Алейчанка, мадэратар секцыі перакладаў, лічыць, што сімпозіум — выдатная нагода не толькі для таго, каб зладзіць творчы дыялог, але і падвесці вынікі літаратурнага года: «Многія ўдзельнікі семінара маладых з'яўляюцца аўтарамі перыядычных выданняў, а ёсць і тыя, чые творы яшчэ не пабачылі свет у друку. Таму гэта выдатная нагода адшукаць творы, якія варта перакладаць на сучасным этапе развіцця літаратуры, аўтараў, а таксама падзяліцца тэндэнцыямі ў мастацкім перакладзе».

Падчас абмеркавання перакладаў каштоўныя парады маладым літаратарам даў Мікола Мятліцкі. Паэт адзначае, што ў перакладчыка не павінна ўзнікаць унутраная боязь ад таго, што ён не ведае мовы: «Зробіш усё, калі пачуеш душой паэта. Большасць удалых перакладаў робіцца тады, калі ты захапіўся паэтам, калі ты бачыш яго і разумееш. Матэрыял трэба асвоіць, узяць у сябе, але трэба ведаць сваю меру як перакладчыка: ніколі не ісці наперадзе паэта, увязаць твор з кантэкстам сваёй літаратуры і новай традыцыі».

У паэтаў атрымаўся сапраўдны творчы дыялог. Парады давалі не толькі мадэратары і вядомыя літаратары, але і ўдзельнікі семінара маладых. Ірына Чарняўская, напрыклад, узгадала, што да рыфмаў часта прызвычайваешся, таму «звяртаеш увагу менавіта на тыя рыфмы, якія падаюцца звычайнымі, але яны будуць новымі, свежымі».

Віктар Шніп звярнуў увагу маладых паэтаў на тое, што заўсёды варта ўлічваць свае моцныя бакі: «Хтосьці добра піша любоўную лірыку, хтосьці — філасофскую. У тым кірунку, дзе паэт пачуваецца больш вольна, яму і трэба працаваць. Але, канечне, час ад часу трэба вяртацца да таго, што не атрымлівaецца. З часам з'яўляюцца і новыя тэмы, і новыя словы. Таму я раю не забывацца на тое, што калісьці не атрымлівалася: у кожнага твора ёсць свой дзень нараджэння».

Ірына Шаўлякова, вядомы літаратурны крытык, паразмаўляла з маладымі аб трэндах і стане сучаснай крытыкі і адзначыла, што размова ідзе пра будучыню таго, што ўсе не любяць: «Беларускую літаратурную крытыку, уласна мне падаецца, любяць не ўсе. Частка ўпэўненая, што аператыўная беларуская літкрытыка памерла, другая частка, больш аптымістычная, лічыць, што калі крытыка яшчэ і жывая, то хутка яе лёс завершыцца». Але прафесія, як і ўласна крытыка, існуе, таму лёс яе абмяркоўвалі доўга: з акцэнтамі на тое, што літаратурныя крытыкі часта сыходзяць у літаратуразнаўства, высветлілі, што ж такое крытыка экспертная, а што — карыстальніцкая, а Алена Мальчэўская прывяла прыклад са свайго досведу як тэатральнага крытыка.

Празаікі закранулі тэму таго, ці лёгка сёння аўтару выдаць уласную кнігу і ці можна сёння замяніць яе на зборнік. Алесь Бадак растлумачыў, што сёння выдаць кнігу, а тым больш — зборнік значна прасцей, чым раней: «Першыя кніжкі маладых выходзяць толькі невялікімі тыражамі. Іншая справа — зборнік. Уся маладая літаратура тут у адным выданні, а гэта цікава і бібліятэкам, і чытачам. Такім чынам, сёння, надрукаваўшыся ў зборніку, можна трапіць у самыя вядомыя беларускія бібліятэкі».

Трапіць у зборнік «Першацвет», які прэзентавалі на сімпозіуме, атрымалася не ва ўсіх, але сярод тых, каму пашчасціла, была Кацярына Карповіч, адна з удзельніц семінара. Рэцэпт таго, як напісаць варты твор, у дзяўчыны досыць просты — пісаць на жыццёвыя тэмы: «Мяне цікавяць узаемаадносіны людзей. Твор, за які я атрымала дыплом "Першацвету", гэта навела "Вогненны вецер Лепаса" пра каханне. Тэматыка даволі банальная, але я паспрабавала дадаць у твор гістарычнасці і, канечне, драмы».

Дарэчы, арганізатары ўпэўненыя, што ўжо ў наступны раз маладыя літаратары і самі змогуць падзяліцца досведам і сакрэтамі творчага поспеху.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Лютаўскі квецень

## «Першацвет»: конкурс і кніга




Стаць пераможцам у гэтым літаратурным конкурсе — гэта значыць пабачыць сваё імя ў кнізе. Вынікам конкурсу «Першацвет» за 2016 год стаў калектыўны зборнік твораў пераможцаў, выдадзены «Мастацкай літаратурай». Але ўдзельнічаць у конкурсе летась азначала ў нейкім сэнсе ўвайсці ў гісторыю: конкурс праводзіўся ўпершыню. Упершыню сярод ганаровых гасцей XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу былі пераможцы «Першацвету»: 10 маладых паэтаў і 10 маладых празаікаў.

Імёны некаторых ужо вядомыя: усё ж у конкурсе ўдзельнічаюць аўтары да 30 гадоў. З некаторымі імёнамі знаёмы чытачы літаратурна-мастацкіх выданняў: акрамя выдавецтва «Мастацкая літаратура» адным з партнёраў конкурсу «Першацвет» з'яўляецца Выдавецкі дом «Звязда». Прынамсі, перш чым творы патрапілі ў калектыўны зборнік, іх аўтары былі прадстаўленыя ці то з падборкамі вершаў, ці то з апавяданнямі на старонках часопіса «Маладосць» і газеты «Літаратура і мастацтва».

— У конкурсе ўзялі ўдзел больш за 160 чалавек з усёй Беларусі, розных яе куточкаў. Некаторых аўтараў мы ведаем у твар, некаторыя — з нашай глыбінкі, але гэта значыць, што там, у глыбіні, захоўваецца нешта таямнічае і пакуль не адкрытае, тое, што можна ўзняць наверх і захапляцца, — паведаміў галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» паэт Віктар Шніп. — У конкурсе 20 маладых пераможцаў. Адбор быў строгі, але мы ўлічвалі перспектыву, што малады аўтар вырасце і далей будзе плённа ствараць. Насамрэч таленавітай моладзі было нашмат больш: я б адзначыў 30 таленавітых паэтаў і 25 празаікаў, вартых быць надрукаванымі ў зборніку. Некаторыя накіроўвалі творы, напісаныя адмыслова для «Першацвету». Хацелася б, каб надалей маладыя аўтары адбіралі самае лепшае, што ў іх напісана апошнім часам. Галоўнае, каб у паэзіі адчувалася сапраўднае паэтычнае слова, а ў прозе — мастацкая літаратура.

Заўвага слушная, асабліва таму, што конкурс будзе працягвацца: клопат пра маладую літаратуру — гэта дзяржаўная справа.

— Конкурс «Першацвет» быў заснаваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкім домам «Звязда», выдавецтвам «Мастацкая літаратура» пры творчай, жывой падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі, — адзначыў намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч. — «Першацвет» — гэта слова, якое вядзе да першаснасці, гаворыць пра нейкі пачатак. Мне здаецца, што ў конкурсу з такой прыгожай назвай будзе вельмі цікавая перспектыва і што следам за альманахам паўстане сур'ёзная бібліятэка твораў маладых літаратараў. Спадзяюся, многія сёлетнія ўдзельнікі дашлюць свае творы і на другі этап конкурсу, які распачнецца ўжо 1 сакавіка. Найлепшыя творы будуць надрукаваныя не толькі ў альманаху «Першацвет», але і на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», часопіса «Маладосць» і іншых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў краіны.

**Марыя АСІПЕНКА**

# ІНТРЫГА ПЕРАКЛАДУ

**Як добра было б, калі б Джоана Роўлінг займела вялікую сімпатыю да нашай мовы і новая кніга пра Гары Потэра выйшла ў перакладзе на беларускую мову крыху раней, чым у перакладзе на рускую... Некалькі тысяч нашых суайчыннікаў адразу скіраваліся б у кнігарню па бестселер і без праблем узгадалі напаўзабыты школьны прадмет. Пераклад з англійскай мовы — выдатная магчымасць прывабіць да мовы беларускай: наведвальнікі XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ахвотна набывалі слоўнік «Наш дом / *Our Home*» і зацікаўлена разглядалі кнігу Льюіса Кэрала «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» ў перакладзе Веры Бурлак. Нават у нядаўняй апытанцы «ЛіМа» два рэспандэнты з дзесяці на пытанне пра апошнюю прачытаную беларускую кнігу згадалі «Віню Пыха» і «Гары Потэра». Натуральна, што тэма перакладаў стала адной з галоўных у дыялогу гасцей з Вялікабрытаніі і беларускіх пісьменнікаў, журналістаў ды кнігавыдаўцоў.**


*Малюнак Алесі Ісы.*

*Уільям Шэкспір, пэўна, — самы вядомы брытанец у Беларусі.*

## TRANSLATE OR NOT TRANSLATE

На сустрэчы ў брытанскім пасольстве, прымеркаванай да адкрыцця кніжнай выстаўкі, замежныя госці шчыра адказвалі на пытанні беларускіх журналістаў. Так, адзін з арганізатараў Еўразійскай творчай гільдыі Марат Ахмеджанаў расказаў, што брытанскія пісьменнікі і выдаўцы ідуць насустрач беларускім калегам у пытанні ўрэгулявання аўтарскіх правоў. Уладальнікі аўтарскіх правоў могуць за сімвалічную суму і нават бясплатна перадаць правы на выданне кнігі на беларускай мове. Але ініцыятыва дакладна павінна сыходзіць ад беларускіх выдавецтваў. Адпаведна, фінансавай падтрымкі ад брытанскага боку ў гэтай справе чакаць не варта:

— Сярод брытанскіх выдаўцоў даўно пануе ўпэўненасць, што «ўсе нам павінны». Ніхто фінансава не падтрымлівае пераклады англійскай літаратуры на іншыя мовы, хаця, магчыма, гэта праява пэўнай англійскай фанабэрлівасці, — адзначыў Жак Тэстэр, заснавальнік выдавецтва *Fitzcarraldo Editions* (Лондан).

Што ж тычыцца перакладу твораў сучасных беларускіх аўтараў на англійскую мову, то ўсе ахвотныя могуць узяць удзел у конкурсе «Адкрытая Еўразія», які штогод ладзіцца Еўразійскай творчай гільдыяй. Перамога ў конкурсе гарантуе выданне твора на англійскай мове.

— Каб вас пераклалі на англійскую мову, патрэбна смеласць. Трэба ўдзельнічаць у фестывалях і конкурсах, рабіць сінопсісы і тэставыя пераклады, бо каб пра вас даведаліся, трэба для пачатку прадставіць сябе, — адзначыў Марат Ахмеджанаў.

Зрэшты, нават кнігі Святланы Алексіевіч былі перакладзены на англійскую мову толькі некалькі гадоў таму: брытанскія выдавецтвы лічылі рызыкоўным брацца за пераклад, бо гэта патрабавала надта вялікіх інвестыцый. Дарэчы, *Fitzcarraldo Editions* першым сярод брытанскіх выдавецтваў выдала пераклад кнігі «Час сэканд-хэнд» на англійскую мову — яшчэ да ўзнагароджвання беларускай пісьменніцы Нобелеўскай прэміяй. Зразумела, што такая сітуацыя з перакладамі не дазваляе брытанцам шмат даведацца пра Беларусь праз мастацкую літаратуру. Пры гэтым пашырэнне цікавасці да перакладной літаратуры — адна з найбольш прыкметных тэндэнцый у сучасным англійскім кнігавыданні («разам з бумам фарбавання для дарослых», — засмучана заўважыў Жак Тэстэр).

— Калі вы жадаеце павышаць пазіцыі беларускай літаратуры ў свеце, не так істотна, на якую мову яе перакладаць, — варта развіваць мастацкі пераклад, выкладаць яго ва ўніверсітэтах як прафільную дысцыпліну, ставараць працоўныя месцы, падымаць стаўкі, а таксама актыўна працаваць з замежнымі літаратурнымі агентамі, — рэзюмавалі прадстаўнікі брытанскай дэлегацыі падчас сустрэчы ў пасольстве і пажадалі беларусам поспехаў на гэтым шляху.



*Фота Александры Парыгінай.*

## БЕСТСЕЛЕРЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Айчынныя перакладчыкі ставяцца да справы прасцей за сваіх замежных калег і бяруцца за кнігі, якія ім падабаюцца, не надта разважаючы пра рызыкі і магчымы прыбытак. Дзякуючы гэтаму на кніжнай выстаўцы-кірмашы былі прэзентаваны тры англійскія бестселеры ў перакладзе на беларускую мову. Усе тры праекты ажыццявіліся дзякуючы платформе *Talaka.by.* Кожная каманда мела сваю нагоду ўзяцца за справу.

— На беларускай мове існуе не так шмат сусветна вядомай літаратуры: дзеці захапляюцца кнігай «Вінаватыя зоркі», «Гары Потэрам», а на беларускай мове твораў такога кшталту вельмі мала. Разам са старэйшым сынам мы прачыталі ўсё, што магчыма, пра лісянят, зайчанят і іншых звяроў. А потым аказалася, што, каб знайсці цікавую беларускую кнігу на сучасную тэму, трэба прыкласці пэўныя намаганні. Калі ў сямейнай бібліятэцы ўжо скончыліся такія кнігі, мы вырашылі, што можна сабрацца грамадой, тым, хто зацікаўлены атрымаць якаснае цікавае выданне, і зрабіць кнігу супольна. У XXI стагоддзі гэта магчыма, бо існуе краўдфандынг, самаарганізацыя грамадства, — распавёў Сяргей Лісічонак, каардынатар праекта па выданні кнігі Ніла Геймана «Караліна» па-беларуску.

Перакладчыца Дар'я Вашкевіч расказала пра ўласныя прыгоды:

— У 2012 годзе, навучаючыся прыгожаму пісьменству ў Вялікабрытаніі, ва Універсітэце Варвіка, я прачытала «Караліну» ў межах курса па дзіцячай літаратуры. Адолела за адзін вечар і адразу вырашыла перакласці. Калі пераклад быў зроблены, вырашыла падзяліцца гэтым цудоўным аўтарам з кімнебудзь. Хацелася зрабіць усё афіцыйна, таму распачалася гісторыя з атрыманнем правя перакладу «Караліны» на беларускую мову, якая цягнулася два гады. (Ніл Гэйман — жывы класік брытанскага і амерыканскага фэнтэзі!) Тым часам мы дамовіліся пра выданне кнігі са спадаром Зміцерам Коласам, атрымалі выдатныя ілюстрацыі ад Алены Медзяковай і знайшлі на «Талацэ» звыш ста сарака чалавек, якія падтрымалі праект.

У выніку зацікаўленыя чытачы могуць паставіць беларускую «Караліну» на паліцу з замежнай літаратурай — побач з кнігамі «Хронікі Нарніі» і казкай «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса», якія былі таксама прэзентаваныя падчас кніжнай выстаўкі-кірмашу.

— «Хронікі Нарніі» былі перакладзеныя на 40 моў, большасць сучасных беларусаў ведаюць гэту дзівосную казку, і несправядліва, што знакаміты твор Клайва Льюіса дагэтуль не перакладзены на беларускую мову, — мяркуе перакладчык Андрэй Кім.

Яго каманда вырашыла выправіць гэтую хібу. «Хронікі Нарніі» складаюцца з сямі кніг, першая з іх — «Пляменнік чараўніка» — ужо выдадзена, другая — «Леў, вядзьмарка і гардэроб» — рыхтуецца да друку.

— Усе сем кніг «Хронік Нарніі» напоўнены алегорыямі на Біблію і Ісуса Хрыста, якога аўтар паказвае праз вобраз льва Аслана. Твор прасякнуты хрысціянскімі ідэямі, і для нас гэта асабліва істотна, — падкрэслівае перакладчыца першай кнігі Надзея Кім.

Размова з паэткай, даследчыцай і выкладчыцай Верай Бурлак рыхтуецца да публікацыі ў адным з найбліжэйшых нумароў «ЛіМа».



*Стэнд Вялікабрытаніі на кніжнай выстаўцы.*

## ЛІТАРАТУРНЫ ФАСТФУД?

Тэма перакладу стала адной з цэнтральных падчас дыскусіі брытанскіх аўтараў пра ролю літаратуры ў грамадстве. Разам з іншымі замежнымі гасцямі Беларусь наведалі пісьменнік Джо Данторн, чыя кніга «Субмарына» была перакладзеная на рускую мову і стала асновай мастацкага фільма, і публіцыст, літаратуразнаўца Эндру Дыксан, аўтар кнігі «Іншыя сусветы: вакол свету з Шэкспірам». Да размовы пра сучасную культурную сітуацыю далучыўся выдавец Жак Тэстэр, а беларускіх творцаў прадстаўляў вядомы пісьменнік Альгерд Бахарэвіч. Спадар Альгерд звярнуў увагу на тое, што ва Усходняй Еўропе панящце стылю пакрысе адыходзіць на другі план: пісьменнікі хочуць быць перакладзенымі, і чым хутчэй, тым лепш, а для гэтага трэба пісаць не вельмі складана. Гэта назіранне знайшло падтрымку ў брытанскіх калег:

— Нам цікава чытаць замежнага аўтара, каб больш даведацца пра культуру іншай краіны. Аднак сучасныя пісьменнікі пачынаюць свядома пазбягаць культурных рэферэнцый, якія будуць незразумелыя англамоўнаму чытачу. Для літаратуры цэнтральнай Еўропы гэта праблема таксама актуальная. Аўтары вырабляюць своеасаблівы фастфуд, які мае ўсім спадабацца, але, з іншага боку, імкнуцца паказаць асаблівасці сваёй культуры праз агульназразумелую мову творчасці, — адзначыў Джо Данторн.

Беларускія пісьменнікі і чытачы ведаюць пра брытанскую літаратуру нашмат больш, чым брытанскія аўтары — пра нас. Такая сітуацыя склалася ў тым ліку праз невялікую колькасць перакладаў беларускіх пісьменнікаў на англійскую мову, што, у сваю чаргу, тлумачыцца адсутнасцю гістарычных стасункаў паміж беларускімі выдавецтвамі і літаратурнымі агентамі ў Вялікабрытаніі. Тым не менш падчас дыскусіі пісьменнікі знайшлі нямала агульных тэм: «Працэс творчасці аднолькавы ў любой краіне, адрозніваецца толькі рэха ад тэксту», — адзначыў Альгерд Бахарэвіч, і ў беларускім грамадстве гэтае рэха, безумоўна, слабейшае.

Нягледзячы на тое, што літаратура сёння падзяляе ўплыў на грамадства з кіно, тэлебачаннем і друкаванымі СМІ, брытанскія пісьменнікі ўпэўненыя, што прыгожае пісьменства адыгрывае значную ролю ў сучасным грамадстве. Адной з галоўных мэтаў літаратуры яны лічаць агучванне новых ідэй, якія будуць абмяркоўвацца і спрыяць сацыяльнаму развіццю.

Мастацкі пераклад дапамагае абменьвацца думкамі паміж рознымі народамі і культурамі, вырашаць іншыя адмысловыя задачы. Абмеркаванне досведу брытанскіх і беларускіх перакладчыкаў і выдаўцоў — стымул для развіцця міжкультурнага супрацоўніцтва, а шматлікія мерапрыемствы з удзелам замежных гасцей сталі запамінальнымі падзеямі для студэнтаў беларускіх ВНУ і іншых зацікаўленых асоб. Дыялог працягваецца, у тым ліку на старонках нашай газеты.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ПРЫГЛЯДАЦЦА = УГЛЯДАЦЦА

## Сербія «прымярала» ролю ганаровага госця налета

**У Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы Сербія ўдзельнічае даўно. Але ў наступным годзе блізкая нам краіна распавядзе пра сябе больш падрабязна — праз кнігі, сустрэчы і культурныя імпрэзы. Прапанова стаць ганаровым госцем на 25-м кніжным кірмашы ў Мінску стала лагічным працягам сяброўскіх стасункаў, што склаліся паміж нашымі краінамі. І падштурхнула да падрыхтоўкі загадзя. У двухбаковых абмеркаваннях усіх акалічнасцяў па арганізацыі стэнда ганаровага госця ад Міністэрства культуры Сербіі ўзяў удзел Младэн Вескавіч, старшы дарадца па міжнародным супрацоўніцтве, мове, літаратуры і культуры сербаў за мяжой. Спадар Вескавіч адзначыў:**

— Стасункі паміж нашымі краінамі добрыя на самым высокім узроўні — палітычным, эканамічным, культурным. Але мы павінны лепш пазнаёміцца адзін з адным на ўзроўні больш шырокіх колаў грамадства. Ведаю, што з мінулых часоў захаваліся кантакты паміж літаратарамі і іншымі творцамі, але гэта сталае пакаленне, а моладзь нашых краін кантактуе ўжо меней. У нас вядомыя некалькі імёнаў беларускіх пісьменнікаў, па якіх мы разумеем беларускую літаратуру. Але мала ведаюць, якія ў вас з'яўляюцца новыя аўтары, пра што яны пішуць. Таму калі Сербія будзе ганаровым госцем на кніжным кірмашы ў Мінску, то гэта найперш шанец для нашых маладых пісьменнікаў прадставіць свае кнігі і распавесці пра сябе. Важна, каб кантакт з'явіўся, але і працягваўся далей, не толькі ў межах кірмашоў, каб абудзілася цікавасць выдавецтваў і публікі, якая б разумела, што наша сяброўства грунтуецца на адным тыпе культуры, пры тым, што ёсць незалежная Сербія і незалежная Беларусь. На гэтым узроўні трэба выбудоўваць адносіны. Таму што ў мінулым стагоддзі нашы народы маглі адчуваць сваю блізкасць праз драматычныя падзеі: гэта Першая сусветная вайна і Другая сусветная вайна, падчас якіх мы былі на адным баку.

**— У нас пра гэта шмат літаратуры. А ў вас?**

— У апошнія часы — так. Але раней не было шмат літаратуры, асабліва пра Першую сусветную вайну. У Першай сусветнай вайне Сербія ваявала на баку пераможцаў, але некаторыя часткі Югаславіі (як Боснія і Герцагавіна, Харватыя і інш.) былі з Аўстрыяй. Таму гэтую тэму ў адзінай Югаславіі не імкнуліся ўздымаць.



Фота Надзеі Бужан.

Младэн Вескавіч.

Цяпер мы можам гаварыць свабодна пра тую вайну, пра вялікую колькасць ахвяр, і не толькі вайскоўцаў, але і мірных жыхароў. Таму з'яўляецца больш літаратуры пра Першую сусветную вайну, Другую сусветную вайну, і яшчэ ёсць вялікае кола літаратараў, якія пішуць пра тое, што адбывалася падчас грамадзянскай вайны ў былой Югаславіі. Але дыстанцыя яшчэ невялікая для глыбокага асэнсавання. Тым не менш ужо можна знайсці творы добрыя, цікавыя, якія распавядаюць пра гэтую драму. Магчыма, некаторыя з іх будуць перакладзены на беларускую ці рускую мову.

**— Ці ёсць цікавасць у сербскага чытача да сваёй сучаснай літаратуры?**

— У Сербіі ладзіцца Бялградскі кніжны кірмаш, які славіцца даўняй традыцыяй: яна складвалася цягам 63 гадоў. Гэта самы буйны кніжны кірмаш з усіх, што адбываюцца ў нашай краіне. У кастрычніку мінулага года яго наведалі больш за 180 тысяч чалавек, якія набылі квіткі. Гэта самая вялікая колькасць наведвальнікаў за ўсю гісторыю Бялградскага кніжнага кірмашу, на якім былі прадстаўлены каля 30 выдавецтваў ад Сербіі і каля 30 экспанентаў ад замежных гасцей. Гэта важнае мерапрыемства для выдавецтваў Сербіі, але яно прыцягвае і прадстаўнікоў Рэспублікі Сербскай, Босніі і Герцагавіны, Чарнагорыі, Харватыі і інш. Шмат людзей прыязджае не толькі з Бялграда, але і з усіх куткоў Сербіі, з іншых земляў, дзе гавораць на сербскай мове.

Так, кніжны кірмаш цікавы для людзей. Але як і ў іншых краінах Еўропы і свету, нашы чытачы ў большасці, на жаль, аддаюць перавагу літаратуры лёгкай, чытву. Шмат маладых людзей любяць коміксы, у нас вялікая колькасць ілюстратараў, якія займаюцца коміксамі. Таксама карыстаюцца попытам камерцыйныя выданні, але сярод іх ёсць і такія, што маюць добрую якасць.

**— Што сабой уяўляе кнігавыдавецкая галіна Сербіі, як яна працуе ў рынкавых умовах? Які сегмент выданняў падтрымліваецца дзяржавай?**

— У нашай краіне зарэгістравана каля 400 выдавецтваў. Але калі вы паглядзіце ў Нацыянальнай бібліятэцы Сербіі, колькі там кніг і хто іх выдаў, то можна сказаць, што выдавецтваў, якія працуюць на рынку стала і метанакіравана, каля 50. Іх кнігі складаюць каля 70 працэнтаў ад усёй колькасці выдадзенай прадукцыі. Ёсць некалькі дзяржаўных выдавецтваў (яны як вялікія грамадскія вытворцы), якія друкуюць законы, падручнікі, тую выдавецкую прадукцыю, якая патрэбна ў дзяржаве. Іх удзел у кніжным рынку не такі вялікі. Большасць кніг, якія трапляюць на кніжны рынак, выдаецца прыватнымі выдавецтвамі. Так, Міністэрства культуры ў нас дае падтрымку выдавецтвам праз конкурсы, падтрымлівае дзейнасць па перакладах, купляе кнігі для публічных бібліятэк.

На жаль, сур'ёзнай літаратуры Сербіі прыходзіць да чытача няпроста. Праўда, і кошт такіх кніг не маленькі. Так, ёсць пісьменнікі, якія ўздымаюць сур'ёзныя для сербскай літаратуры тэмы, пра іх пішуць крытыкі і літаратуразнаўцы ў літаратурных часопісах (але іх тыражы невялікія, каля 930 экземпляраў). У Сербіі каля 45 — 50 літаратурных часопісаў і газет, якія атрымліваюць падтрымку Міністэрства культуры. Таксама на некалькіх інтэрнэт-форумах вядуцца літаратурныя дыскусіі. Многія камерцыйныя медыя цяпер не знаходзяць шмат прасторы для культуры, але на акадэмічным узроўні, ва ўніверсітэтах ёсць прафесары і студэнты, якія цікавяцца пытаннямі сучаснай літаратуры.

Цяжка быць пісьменнікам цяпер не толькі ў Сербіі, але і наогул. Калі пісаць сур'ёзную літаратуру, то тыраж кніг не будзе вялікі. Ёсць праблема, як прыцягнуць чытача. Час, у які мы жывём, мяняе камунікацыю паміж пісьменнікам і чытачом. Ужо шмат людзей чытаюць кнігі ў інтэрнэце. Праўда, у нас няма вялікай колькасці электронных кніг, іх доля меней за 5 працэнтаў. Але людзі, што займаюцца сур'ёзнай літаратурай, кансерватыўныя, яны любяць паперу, пачытаць часопіс, газету, якую можна трымаць у руках. Для іх важная і кніга. Мне цяжка ўявіць, які тып літаратуры будзе запатрабаваны, як яна будзе развівацца далей. Новы час — новы тып камунікацыі. І калі раман ці паэма вартыя, то форма прыходу да чытача можа быць рознай. Але змест самаісны. Мне здаецца, гэта справядліва і для нас, і для вас.

**Размаўляла Ларыса ЦІМОШЫК**

**Драган Лакічавіч**

### У самалёце «Мінск — Бялград»

*Мінск нагадвае вялікі лега-горад,*
*Па якім лега-людзі гуляюць,*
*Спяшаюцца ў лега-цэрквы*
*і лега-школы.*

*Гэтак, відаць, Бог забаўляўся,*
*Калі быў дзіцяткам, —*
*з малога краю,*
*Каб неяк аднойчы*
*З лега-кубікаў і цацак*
*Скласці краіну вялікую,*
*А вакол яе — свет астатні.*

*Людзі-постаці ў горадзе Мінску*
*Здаліся Богу надта спакойнымі,*
*добрымі,*
*І Ён пасяліў побач не такіх*
*добрых —*
*Каб горшыя вучыліся ў лепшых,*
*Каб лепшыя ад горшых цярпелі.*
*Горшыя ў лепшых не вучыліся,*
*І лепшыя хрысціянамі сталі,*
*каб прабачаць*
*Правіны горшых.*

*Мінск стаў школай-царквой*
*У акружэнні плошчаў і паркаў.*
*Таму ён нагадвае лега-горад*
*Пасярод вялікага зялёнага поля*
*Незабыўнай Беларусі.*

**Райка Петраў Нога**

* * *

*Ангелам падрэзалі крылы*
*Архангела скруцілі дротам*
*А свечка яшчэ не пагасла*
*І першай літарай не стала*
*іжыца*

*Змарнеў краявід камяністы*
*Перасохла ў Астрогу крыніца*
*Калі марнаслоўная лжэзорка*
*Агаварыла ягня за спінай у Бога*

**Мація Бечкавіч**

### Кінжал

*Ёсць такая цікавая прытча,*
*Што да нас дайшла з поўначы,*
*Пра паляванне на хіжых*
*ваўкоў:*

*Бяруць кінжал*
*двухбаковавостры,*
*Абмакваюць лязо ў свежую*
*кроў і,*
*Уткнуўшы ў лёд дзяржаком,*
*Пакідаюць на снежнай*
*прасторы.*
*Воўк, у тую пару згаладалы,*
*Пах крыві здалёк адчувае,*
*Асабліва ў паветры марозным*
*Ноччу, пад высокімі зорамі,*
*Так што лёгка знаходзіць*
*прынаду тую.*
*А мерзлую сукравіцу ліжучы,*
*Адразу рэжа язык сабе*
*І тады цёплую кроў сваю*
*З халоднага ляза сёрбае.*
*Прычым супыніцца не можа,*
*Ажно пакуль не ўпадзе,*
*Сваёй крывёю здаволіўшыся.*

*Калі ж так адбываецца*
*з ваўкамі,*
*Якіх упаляваць найцяжэй,*
*То што казаць пра людзей*
*Ды і пра народы ўвогуле,*
*А пра наш тым болей,*
*Бо ён жа сваёй крывёю*
*Ніяк не спатоліцца.*
*І ўперш прападзе,*
*Чым спасцігнуць здолее,*
*Што можа над намі*
*Толькі крывавы кінжал*
*Застацца*
*Адзіным помнікам*
*І крыжом.*



Крэпасць Галубац на беразе Дуная.

**Адам Пуслаіч**

### І крыж, і сорам

*Крыж свой трымаю*
*ў руцэ*
*і мы існуем разам*

*як кажуць*
*зноў усё*
*тое што не стала*
*жыццёвай звычкай*
*сорамна мне*
*перад Богам*
*што Ім створанае*
*для мяне стала звыклым*

*але яшчэ ж*
*пагляджу*
*і папраўлю*
*і дапоўню*

*абы толькі*
*засталося здароўе*
*і многа спраў*

**Пераклад Івана Чароты**

# Ты пройдзеш, а гэта застанецца...

**Сталіца адзначала юбілей Максіма Багдановіча, таму ў зале Купалаўскага тэатра было нязвыкла шмат вольных месцаў. Замаўляючы білет на «Дзве душы», я ўбачыла з густам аформленую праграму: побач — старасвецкая драўляная лыжка і срэбны відэлец з вензелем. Так што мой «тэатр» пачаўся яшчэ на адлегласці 150 км ад вешалкі: гэта, як казаў Умбэрта Эка, быў штуршок.**

Штуршок-успамін. Пра драўляныя відэлец і лыжку, убачаныя пазамінулым летам у музеі ГУЛАГа на Вялікім Салавецкім востраве. Пэўна, іх рабілі розныя майстры. Відэлец быў самы звычайны. А лыжка адмысловая: канец чаранка, выразаны як відэлец, імітаваў ручку з пяццю пальцамі. Супадзенне? Выпадак? Выпадковая заканамернасць. Хутчэй, заканамернасць у аблічы выпадку, які, па словах У. Набокава, трапіў якраз у тую фортку, што для яго адчынілі. Асацыятыўная праўда пра той час.

«Дзве душы» — не толькі фрагмент маёй, даследчыка літаратуры першай трэці XX стагоддзя, «мысленчай штодзённасці», а і ключавы ментальны канструкт як дачкі беларускай маці і бацькі-расіяніна. Таму трэцяга званка чакала з трывогай: у якой меры ўдалося рэжысёру ажыццявіць пераклад такога няпростага твора на мову іншага віду мастацтва, пагадзіць мастацкую рэальнасць розных жанраў? І з надзеяй, бо і праз дзесяць гадоў яскрава згадваюцца «Тутэйшыя», якія стварылі ў тэатральнай зале ўзнёслае, непадманнае адчуванне прысутнасці ў Маладой Беларусі...

Усякая культура мае свой набор сродкаў, якія надаюць ёй нацыянальную адметнасць. Даследчык (а ў дадзеным выпадку яго функцыю ўзяў на сябе рэжысёр), які належыць да той жа культуры, што і інтэрпрэтаваны твор, адаптуючы яго, успрымае іх як іманентна ўласцівыя. Прадстаўнік жа іншай культуры перш за ўсё адчувае тэту агульную сістэму прыёмаў пераважна ў адрозненні ад звыклай. Творчасць М. Пінігіна, як у свой час У. Мулявіна, дае прыклад каштоўнаснага ўспрымання нацыянальнай душы беларускага мастацтва (такі сабе парафраз на тэму прарока і Айчыны...). І адметнасць гэтай душы ў тым, што яна «...двaілася». Сцверджаны М. Гарэцкім загаловачны канцэпт — ключ да інтэрпрэтацыі твора.

Усвядомасці падрыхтаванага чытача аповесць М. Гарэцкага і «сцэны» паводле яе ўтвараюць своеасаблівую кальцавую кампазіцыю. Чытача ж, які ўпершыню сустрэўся з гэтай мастацкай з'явай, назва дэзарыентуе. Можна паспрачацца з У. Эка, што назва ў прынцыпе павінна заблытваць думкі, а не дысцыплінаваць іх, але варта пагадзіцца, што ў фінале чытач/глядач дапне-такі да адэкватнага вытлумачэння. Укладальнікі тэатральнай праграмы далікатна паклапаціліся расставіць на гэтым складаным шляху неабходныя вехі. Паспяховае заглыбленне ў таямніцы свядомасці персанажа, піша Я. Гарадніцкі, непасрэдна звязана з псіхалогіяй творцы, яго патрэбнасцю маральнага абавязку перад сабой і чалавецтвам. Псіхалагічная дамінанта самога Гарэцкага заяўлена загалоўкам аповесці «Меланхолія», а яго асоба не дае ўсумніцца ў праўдзівасці максімы А. Шапенгаўэра «Усе хоць колькі выбітныя людзі — меланхолікі».

Самым метафізічным і філасофскім тыпам сюжэта У. Эка называе дэтэктыўны. Гэта заўсёды гісторыя загадкі, абстрактнай мадэллю якой з'яўляецца лабірынт. Адноснa «загадак» Гарэцкага — гэта лабірынт-рызома, той тып сістэмнай арганізацыі, што яшчэ толькі асвойваецца наяўнай культурай. Ва ўсякі момант часу ўсякая лінія рызомы можа быць прынцыпова і непрадказальным чынам звязана з іншай, што і здзяйсняецца па меры развіцця сюжэта.

Сапраўднай пакутай, пеклам чалавечае жыццё робіцца толькі там, пісаў Г. Гесэ, дзе перасякаюцца дзве эпохі, дзве культуры, дзве рэлігіі. Калі структура — гэта Космас, то рызома — «хаосмас», тая сітуацыя, калі, паводле Дэлёза і Гватары, свет згубіў свой стрыжань. Аповесць М. Гарэцкага рэпрэзентуе разгубленасць чалавека, які заблукаў у гэтым зменлівым, няўстойлівым свеце. Уяўны хаос нібыта і змяшчае ў сабе патэнцыйныя магчымасці новых трансфармацый. Але свет, пабудаваны як рызома, насамрэч канчаткова не дабудаваны: няма цэнтра, няма перыферыі, няма выйсця... «Дзве душы» — сімвалічна мнагазначная форма пошуку гармоніі, дасканаласці, набліжэння да ўнутранага адзінства.

Паводле Пісання, «чалавек, у якога дваяцца думкі (у "Каментарыях" да Біблії: "з душой, якая двaіцца") не цвёрды на ўсіх шляхах сваіх» [Іак 1, 8]. Яму было б «лепш бачыць вачыма, чым блукаць душою» [Екл 6, 7]. У пэўных фрагментах гэты пафас скіраваны на язычнікаў, якім, аднак, Пісанне не выносіць канчатковага прысуду: «...калі язычнікі, не маючы закона, па прыродзе законнае робяць, то, не маючы закона, яны самі сабе закон. Яны паказваюць, што справа закона ў іх напісана ў сэрцах, пра што сведчаць сумленне іх і думкі іх, якія то абвінавачваюць, то апраўдваюць адна другую...» [Рым 2, 14—15].

Феномен «дзве душы» ў беларускай культурнай прасторы не страчвае актуальнасці; універсальна-прэцэдэнтны, ён рэпрэзентуе шырокі дыяпазон сэнсаў. Гэта наша ўсё (ці амаль усё, ці часткова ўсё...), якое не азначае двудушнасці, а маркіруе двaістасць прыроды чалавека як спалучэнне ў ёй прыроднага і сацыяльнага; гаворыць пра дыялектыку дабра і зла, розуму і пачуцця. Як пісаў Г. Леўчык, «Розум кажа: суха, а сэрца — вільготна, / А што хоча розум, дык сэрцу маркотна». Гэта яскравая ментальная адметнасць асобы беларуса, яе арганічная сутнасць — і разам з тым нейтральная тэрыторыя сумневу, якая супрацьстаіць дагматычнаму мысленню. «Дзве душы» як сацыяльны прэцэдэнт народжаны двaістасцю сацыяльнай рэчаіснасці, супярэчнасцю паміж чалавечым і грамадзянскім, гуманістычным і ідэалагічным. У асабовым плане гэта паказчык праўдзівага, непадробнага стаўлення да працэсаў, з'яў і людзей. Гэта ўрэшце знак супярэчнасці паміж прыхільнасцю да традыцыйных каштоўнасцяў і складанасцю прысваення новых.

Лічба «два» не толькі генералізуе ідэйна-філасофскі змест аповесці М. Гарэцкага, але й абумоўлівае асобныя элементы мастацкай формы. Гэта і характарыстыка асяроддзя, і метафара лёсу практычна ўсіх персанажаў аповесці. Васіль і Ігнат — варыянт традыцыйнага канфлікту двух братоў. Ігнат занадта «доўга самавызначаецца», а Васіль — «добры камуніст». Але агульначалавечая частка іх душаў аднолькава не прымае дыктатуры і тэрору. У Абдзіраловіча, умоўна кажучы, дзве маці, але па розных абставінах ён не з імі, а паміж іх, як беларус паміж Усходам і Захадам. Пяшчотнабалючыя ўспаміны пра Алю Макасееву пакрысе пачынаюць выцясняцца думкамі пра Іру Сакавічанку. Сведамасць намацвае прымальны варыянт светабачання паміж пазіцый Сухавея і Канцавога.

Над тэатральнай дзеяй нельга памарудзіць так, як над кніжнай старонкай, таму ў спектаклі не магло не быць падказак для гледача. Надзвычай мэтазгодным і густоўным выявілася выкарыстанне хронікі, магчымасцей гукавых і



*Сцэна са спектакля «Дзве душы» Купалаўскага тэатра.*

колерава-светлавых эфектаў і, асабліва, старых здымкаў, гэтай «уходящей натуры». Заўважна, што для стваральнікаў спектакля яе актуальнасць была звязаная не з прыманнем непазбежнасці сыходу, а менавіта са спробай не даць сысці, знікнуць атмасферы ранейшага часу і яе абліччаў, захаваных уменнем фотамайстроў мінулага. Прыгажосць гэтых абліччаў не толькі і не столькі ў прапарцыянальнасці рысаў, а ў глыбіні і значнасці: «на паверхню» выходзіць высакародная душа, адбіваюцца ідэалы і каштоўнасці эпохі. Напачатку гэта своеасаблівая калекцыя ілюзій шчасця, але іх страчваюць здымкі анфас і ў профіль... Тут праз пакуту з рознай інтэнсіўнасцю прасвечвае намаганне волі, жаданне захаваць адзінае, што засталося, — чалавечую годнасць. Але ёсць, як пісаў сам М. Гарэцкі, і вочы «...змятыя, сцёртыя». Чорна-белы фоташэраг па-свойму выяўляе феномен двайніцтва, робіцца эстэтычным прыёмам. З аднаго боку, гэта галерэя своеасаблівых двайнікоў персанажаў, з другога — віртуальная рэальнасць мяжы двух мінулых стагоддзяў.

На мяжы чорнага і белага «жыве» шэры колер, адзін з этнадыферэнцаваных колераў беларусаў. Ён стабілізуе працэсы вакол, але заўсёды выглядае раздвоеным. Спалучэнне супрацьлеглых якасцей надае шэраму колеру адметную «псіхалогію», у тым ліку ўласцівасць адчуваць сябе адзінокім, непатрэбным і чужым. Ён ніколі не будзе першым, бо ў яго няма да гэтага ўнутранага імкнення; адзіная мэта — стабільнасць і гармонія (ад знясіленасці і стомы). Людзі, у карціне свету якіх пераважае шэры колер, выяўляюць эмацыянальную стрыманасць, якой часта спадарожнічае спустошанне. У негатыўным значэнні колеру для яго ніколі няма будучыні — ён стары, хворы, яму заўжды чагосьці не хапае. У сваім станоўчым значэнні шэры колер упэўнены, што лепшае наперадзе, але нічога для гэтага не робіць. Ён выяўляе заўсёдную барацьбу розуму з беспрычыннай трывогай, а гэта адзін з самых істотных паказчыкаў сіндрому «дзвюх душ».

На думку псіхолагаў, шэры колер пазбаўлены ўнутранай энергіі, што можа быць ахарактарызавана такімі выразамі, як «падрэзаныя крылы», «прыбіты, паламаны, але яшчэ жывы». У шэрых апратках і атопках з'яўляецца перад гледачом вязень — Аўтар. Увядзенне вобраза Аўтара з'явілася своеасаблівай пазнакай двайніцтва, сігналам праспектыўнай кампазіцыі, тым прыёмам, што дазволіў пераадолець разрыў паміж эстэтычнымі законамі эпасу і драматургіі і прагучаў шчымлівай — не блытаць з сентыментальнасцю! — нотай праз усё сцэнічнае дзеянне, прынцыпова непрадказальна, як лінія рызомы, утварыўшы сувязь дапасавання з беларускай калыханкай, прыпеўкамі, танцамі, народнымі показкамі і анекдотамі.

Кузьма Чорны пісаў: «Як шчаслівы тыя людзі, якія і ў думках сваіх сваю душу тым, чым жывуць цэлам...». Стан «дзвюх душ» уласцівы асобам з вымушанай, рэпрэсіўнай ідэнтычнасцю ці ідэнтычнасцю лаяльнасці, і не толькі літаратурным, а і рэальным, пра што сведчыць лёс Платона Галавача. Як стала вядома зараз, пісьменнік зрабіў беспрэцэдэнтны для свайго часу ўчынак, напісаўшы заяву аб выхадзе з партыі. Ён матываваў гэта пакутлівым станам раздвоенасці паміж літаратурнай і грамадскай працай, якая не дае яму магчымасцей для творчага росту як пісьменніка. Сам М. Гарэцкі, як сведчаць яго лісты з высылкі да родных, «раздвойваўся» паміж нязмушанасцю працы над «Камароўскай хронікай» і апрацоўкай для друку «Віленскіх камунараў».

Паводле лінейнага часу апавяданне «Роднае карэнне» (1913) і аповесць «Дзве душы» (1919) падзяляе зусім мізэрны адрэзак. А ў маштабах часу гістарычнага паміж імі пралягла цэлая эпоха. Як напісаў пра 1913-ы Б. Пастарнак, гэта быў апошні год, у які было лягчэй любіць, чым ненавідзець. «Дзве душы» як дамінанта светапогляду герояў М. Гарэцкага прысутнічае ўжо ў «Родным карэнні». Архіп Лінкевіч «раздвойваецца» ў сваім успрыманні вёскі. Розум уступае ў супярэчнасць з сэрцам. І такія — амбівалентныя — адносіны да рэчаіснасці самыя шчырыя і праўдзівыя. Праз пераадоленне супярэчнасці чалавек ідзе да ісціны, набыцця сябе. Архіп Лінкевіч мае мэту служыць доктарам на Беларусі і збіраць матэрыялы пра духоўнае жыццё свайго народа. Лявон Задума вырашае жыць, працаваць і кахаць для Беларусі. Максім Гарэцкі ахвяруе сваім Я дзеля святой справы Адраджэння...

Ёсць бясспрэчнае азначэнне нацыянальнага характару: ты пройдзеш, а гэта застанецца. Амаль (ужо?.. усяго толькі?..) сто гадоў таму М. Гарэцкі сказаў беларусам пра іх галоўны комплекс. Ёсць азначэнне, з якім можна спрачацца: не трэба змагацца з комплексамі — яны вызначаюць вашу адметнасць. Ці варта спрачацца і змагацца, кожны вырашае для сябе.

**Алена БЕЛАЯ**

## Мікола ШАБОВІЧ



***

*Калі ізноў наведаеш сталіцу?*
*Я ўжо забыўся пра вачэй агонь*
*І як твая мадняцкая спадніца*
*Агнёвіць, апякаючы мне скронь.*

*Прыедзь хаця б на хвілю. Не ляніся.*
*Хачу пабачыць, як твая рука*
*Ўзлятае ў разнасцежаныя высі,*
*Нібы спаймаць імкнецца матылька.*

*Забудзь пра ўсе нястрэчы і падманы.*
*Сумуе сэрца без твайго цяпла.*
*І мне не трэба мораў-акіянаў —*
*Адно каб ты дзесь блізенька была.*

***

*Прыходжу да цябе не ў першы раз...*
*Мо ў гэтым нейкі тоіцца сакрэт?*
*Яшчэ Шамякін напісаў пра нас:*
*Як ёсць гандлярка, мусіць быць паэт.*

*Тваю усмешку чыстую лаўлю —*
*І сэрца ўжо гатова трапятаць...*
*«Я не кахаю Вас — я Вас люблю...»*
*Ужо змаглі другія напісаць.*

*Мне ж застаецца да тваіх плячэй*
*Крыху прыпасці ў дзённай мітусні.*
*Зеленавір лагодлівых вачэй,*
*Як аніўто, мае прыгожыць дні...*

*Да новых стрэч, гандлярка! Твой паэт*
*З табой заўжды. Ён рад цябе вітаць.*
*Зірні ў акно: нявесціцца Сусвет,*
*І зоркі дзве так полымна гараць.*

***

*Такую ўбачыць прыгажосць —*
*І не заснуць да самай раніцы.*
*Я рады, што была, што ёсць...*
*Заўсёды будзь, багоў абранніца!*

*Я помню твой пяшчотны твар,*
*Вачэй сімфонію інтымную...*
*Ты, нібы сонейка з-за хмар,*
*Дарыла радасць неабдымную....*

*Трымайся, Божае дзіця!*
*Няхай твае жаданні споўняцца!*
*Кахаць — да самазабыцця!*
*І жыць — напоўніцу, напоўніцу!*

## Табе

*Зноў не спіцца табе апаўночы,*
*Ты хаваешся ў коўдру, бы ў сны,*
*І ўяўляеш чароўныя вочы*
*З маладой рамантычнай вясны,*

*Каб міжволі на хвілю якую*
*Уваскрэсіць агмень пачуцця,*
*Што ад горкай самоты лякуе,*
*Што прыгожыць варункі жыцця...*

*О пяшчотныя ночы сваволі!*
*Мар спакусных бясконцая ніць!*
*Каб ніколі, ніколі, ніколі*
*Некаханай сябе не ўявіць...*

***

*А ці помніш ты лета,*
*Як півоняў цвіла?..*
*Нібы ў Храм, да паэта*
*Ты на споведзь прыйшла*
*Пра былыя развіты,*
*Пра дзявоцтва гады...*
*Ты была — у блакітным.*
*Быў паэт — малады...*

*Дзіўнаквецілі далі,*
*Вабіў-клікаў блакіт...*
*Вы, як дзеці, здавалі*
*На сяброўства іспыт...*
*Дзе тых душ трапятанне,*
*Хваляванняў імгла?!.*
*Ты святое каханне*
*Зберагчы не змагла.*

*За сустрэчай сустэчу*
*Адбірала жыццё...*
*Даждэжапад. Халадэча.*
*І падману асцё.*
*Летуценныя мары*
*Свой спазналі спачын,*
*І для гэтага, мабыць,*
*Сто ці болей прычын...*

*Хоць не вернецца лета,*
*Хоць імклівяць гады,*
*Толькі песняй няспетай*
*Для мяне назаўжды*
*За туманам нябыту,*
*За сцяною вады*
*І князёўна ў блакітным,*
*І паэт — малады...*

## Алёнка

*Даўно адцвілі ўжо рамонкі,*
*І ружы даўно адцвілі...*
*Алёнка, Алёнка, Алёнка,*
*Ці ўспомніш мяне ты калі?*

*Як мары вірылі-імчалі,*
*Адданыя нашаму дню,*
*У светла-блакітныя далі,*
*Адолеўшы сноў мітусню.*

*А ты чаравала нястомна,*
*Дарыла свой дзіўны пагляд,*
*Якому зіхцець над сутоннем,*
*Які я забуду наўрад...*

*Бялява-спакусная казка,*
*Сатканая з мройных пяшчот!*
*Прашу: не знікай, калі ласка,*
*У кола жыццёвых турбот.*

*Застанься на хвілю-другую*
*На гэтым зямным віражы,*
*А то за табой пабягу я...*
*Знікаеш — бяжы не бяжы.*

*Хаваешся ў цень адвячорка,*
*Забраўшы надзеі мае...*
*Алёнка, Алёнка, Алёнка —*
*Так соладка сэрца пяе,*

*І новая спеліцца стрэча*
*Пад купалам зорных начэй,*
*Калі патану я ў сінечы*
*Тваіх непаўторных вачэй.*

## Яўген ЦЕРАХАЎ



## Балада пра каханне

**1**

*Трапляюцца між кніг з былога рэчы.*
*Вось хустачка твая — ...нібыта*
*ў вараждбе...*
*Успомніў парк з рачулкай хуткацечнай,*
*І любую, каханую — цябе.*

*Цудоўная, зямная і святая,*
*З крыніц душы ўзыходзіць вобраз твой.*
*Здаецца, зноў на крылах узлятаю,*
*Лунаю ў вышыні над лугам, над травой.*

**2**

*...Хаваўся гай у велічным тумане,*
*Схіляла сонца галаву ніжэй.*
*Цябе чакаў на першае спатканне —*
*Дзяўчыны я не бачыў прыгажэй.*

*...З'явіўшыся, як казачная фея,*
*Прынесла ты узнёсласць і спакой.*
*Праз сад ішлі, раптоўна чырванелі,*
*Ледзь-ледзь рукі крануўшыся рукой.*

*І голас мой тактоўна і ласкава.*
*Тваё шаптаў прыгожае імя.*
*Я ўпершыню сказаў табе: «Кахаю».*
*Адказ пачуў: «Цябе кахаю я».*

**3**

*Імглістая, нас лашчыла сцяжынка,*
*Дуб заручальны цёпла шапацеў.*
*А чэрвеньская ноч у сваіх абдымках*
*Вітала дружны салаўіны спеў.*

*...Ды раптам месяц адышоў за хмары,*
*І вецер-волат наляцеў на тын.*
*Ад навальніцы, ад яе удараў,*
*Прытулак даў нам цёплы панскі млын.*

**4**

*Стагоддзі, што прайшлі і адступілі*
*Напомнілі прыладамі ўздоўж сцен...*
*Пяшчотна цемру свечка супыніла,*
*Святлом упаўшы ля тваіх кален.*

*Агеньчык чысты — матылёк-гарэза*
*Спрачаўся з полымем, што ў печы загуло.*
*Натомленая, свечка дагарэла,*
*Другая ўвесь пакой напоўніла святлом.*

**5**

*Каханне наша абуджала веру,*
*Натхненне нараджалася ў цішы,*
*Радкі прасіліся і леглі на паперу,*
*Чысцюткія, як свет тваёй душы.*

*Дажджынкі нібы марылі сагрэцца,*
*Цяклі па шкле, як слёзы па шчаках.*
*Сказала: «Ты паслухай маё сэрца,*
*Як птушачка яно ў тваіх руках».*

*Хвіліны беглі, мы задзьмулі свечы,*
*Чакання падступіў салодкі сон.*
*Імкнуліся і вусны да сустрэчы.*
*Ды уварваўся незвычайны гром!*

**6**

*...Дзвюх чыстых душ жаданае памкненне*
*Знаходзіць і стварае вечны шлях.*
*Ўсяго жыцця зямнога прадаўжэнне*
*Ў бясконцых, нібы бег планет, вяках.*

**7**

*Маланкі малявалі штось на сценах.*
*Ты цалавала мякка вусны мне.*
*Адны ў Сусвеце. Вось яно імгненне!*
*Непараўнальны дарагі санэт!*

*І дождж іграў сімфонію прызнанняў*
*І хваляваў бяссонную раку.*
*Ты адчувала ўсе мае жаданні —*
*Як скрыпка адгукалася смычку.*

*Не заціхала сваха-навальніца,*
*З высокіх стрэх ліла вада ракой.*
*Ні пачакаць стыхіі, ні спыніцца.*
*Яна між намі, небам і зямлёй!*

**8**

*Ды толькі сціхла ў коміне разгульным.*
*Ты да пляча схілілася бліжэй.*
*Свячы агеньчык — добры і утульны*
*На тваім твары соладка дрыжэў...*

**9**

*Суровы лёс прымусіў да расстання,*
*Нічога нас пра гэта не спытаў.*
*І у мяне адно цяпер жаданне,*
*Каб лёд разлукі некалі растаў.*

*Між голых дрэў лютуе завіруха,*
*Кладзецца белым снегам сівізна.*
*У садзе маім пуста, дзіка, глуха,*
*А ў бедным сэрцы толькі ты адна.*

*Нас раздзяляюць межы і прасторы,*
*Але жыву з адзінай марай я:*
*З табой прайсці праз радасць і праз гора,*
*Мая Радзіма і каханая мая.*

## Наталля ЦВІРКО



***

*Мне сумна ў гэтай цішыні,*
*У гэтым зоркавым бязмежжы.*
*Мяне крылом ты ахіні*
*І цеплынёй сваёй усмешкі.*

*І недзе там, сярод вясны,*
*Яшчэ гучаць, напэўна, словы.*
*І ты ў мае прыходзіш сны,*
*Не позна ўсё пачаць нанова.*

## Сэрцам да сэрца

*Так, як заўсёды, і так, як ніколі —*
*Сэрцам да сэрца насуперак болю.*
*Зноў не дазволю табе я згубіцца.*
*Зноў паспрабую мацней*
*прытуліцца.*

*Хай цеплыня ў душы не астыне!*
*Хай мы ніколі не станем чужымі!*
*Так, як заўсёды, і так, як ніколі, —*
*Сэрцам да сэрца насуперак болю.*

***

*На парозе тваёй надзеі*
*Я нясмела ізноў стаю.*
*І чакаю, што ўсё ж сагрэеш*
*Цеплынёй ты душу маю.*

*Колькі крыўды ў вачах і словах!*
*І каму з нас мацней баліць?*
*Толькі крыўда — заўжды часова,*
*Калі раны ў душы гаіць.*

## Па зоркавым світанні

*Па зоркавым світанні*
*Прайдуся басанож.*
*Ты дзе, маё каханне?*
*Ці ўбачымся мы ўсё ж?*

*Ў далонях поўна шчасця,*
*Цябе ж усё няма.*
*І як жа нам спаткацца,*
*Не ведаю сама.*

*Па зоркавым світанні*
*Прайдуся басанож.*
*Пачуй мяне, каханне,*
*Мо ўбачымся мы ўсё ж?*



Фота Кастуся Дробава.

# Фіктыўны шлюб



Віктар КУНЦЭВІЧ

*Апавяданне*

Галіне Мікалаеўне спалася дрэнна. Можа, яна і зусім не спала, бо думкі пераплятаіліся з дрымотай і ўжо цяжка было ўявіць, ці снілася ёй размова з сынам, ці яна ў думках з ім размаўляла.

Мікалай патэлефанаваў вечарам. Распавёў, як здаваў залік. Паведаміў, што расстаўся з Наташай, з якой сустракаўся апошнія два гады. Яна скончыла юрыдычны факультэт, па прафесіі ўладкавацца не змагла і зарабляла на жыццё танцамі ў начных клубах і рэстаранах. Часта ездзіла на заробкі за мяжу.

— Гэтым разам паехала да туркаў, вось я ёй і сказаў: не хочаш шукаць сур'ёзную працу — ну і танцуй далей… — у голасе Мікалая гучалі ноткі роспачы.

— Можа, яна б і знайшла працу пазней… — паспрабавала заступіцца за дзяўчыну Галіна Мікалаеўна.

З Наташай яна пазнаёмілася на дні нараджэння сына. Адкрытая, гаваркая, вясёлая, тая ёй спадабалася.

— Ведаеш, матуля, я студэнт, а працу ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы ўсё ж знайшоў. І палову заробку трацію на званкі за мяжу. Так што хопіць!.. Заўтра прыеду дамоў. Ёсць размова. Хачу параіцца…

— А што такое? Кажы, — захвалявалася жанчына.

— Не, гэта не па тэлефоне… Не хвалюйся, нічога экстрэмальнага.

Мацярынскае сэрца прадчувала нядобрае…

Мікалай з'явіўся надвячоркам, калі дамы ахутала восеньская шэрань. Галіна Мікалаеўна цярпліва чакала, пакуль сын павячэрае. Еў ён прагна і хутка.

— Коля, сынок, пра што ты хацеў параіцца? — запыталася маці, калі яны прайшлі ў залу.

— Ты непакоілася праз гэта?! — здзівіўся Мікалай. — Я ж казаў: няма чаго хвалявацца. Справа вось у чым: ёсць у мяне аднакурсніца, завуць Таццянай. Паколькі вучыцца яна бясплатна, то яе чакае размеркаванне на тры гады. Нядаўна прыязджалі бацькі Таццяны, прапаноўвалі мне аформіць з ёю шлюб, а за гэта паабяцалі іншамарку, і даволі неблагую, а яшчэ — добрую працу ў клініцы.

— Дык яны прапаноўвалі табе ажаніцца з Таццянай ці аформіць фіктыўны шлюб? — узрушана перапытала Галіна Мікалаеўна.

— Я так зразумеў, што ім падыходзіць любы з гэтых варыянтаў, — пасміхнуўся Мікалай.

— А табе самому які больш падабаецца? — у залу ўвайшоў бацька, Павел Рыгоравіч.

— О, тата, прывітанне, — Мікалай узняўся з канапы. — Шчыра кажучы, ні першы, ні другі.

— Чаму? — Павел Рыгоравіч дапытліва зірнуў на сына і сеў у крэсла.

— Жаніцца можна толькі тады, калі кахаеш, а не па разліку. Машына, вядома, спакушае, аднак і пашпарт рызыкую запляміць, і сумленне…

— Правільна, сынок, разважаеш, — заўважыла Галіна Мікалаеўна. — За савецкім часам да разведзеных увогуле з насцярогай ставіліся…

— Ну, куды ты павяла! — махнуў рукой Павел Рыгоравіч. — Значыць, па-вашаму, фіктыўны шлюб — гэта амаральна?! А грошы што, самі ў рукі плывуць?! Не, трэба круціцца! — Павел Рыгоравіч акінуў жонку кароткім сярдзітым поглядам. — А бізнес, якім я займаюся, тады называлі не чым іншым, як «купі-прадай», спекуляцыяй… Цяпер гэта прыбытак. І фіктыўны шлюб — таксама бізнес.

— Паша, ты думаеш, што кажаш?! Хочаш, каб наш сын пачаў шлях у дарослае жыццё з падману?!

— Ды які падман?! Усё, трэба пагаджацца на прапанову бацькоў гэтай… — як яе? — Таццяны. Ён жа ўжо другі год просіць у нас машыну. І курсы скончыў. А тут — шчаслівы выпадак…

У пакоі ўсталявалася працяглае маўчанне. Раней Галіна Мікалаеўна ніколі не спрачалася з мужам, нават калі ён абвінавачваў яе несправядліва. Яна прывыкла да гэтых папрокаў…

«Чаму маці жыве з ім? Чаму не развядзецца?» — Мікалай неаднойчы задаваўся гэтымі пытаннямі, хоць таксама прывык да таго, што бацька распараджаўся ў сям'і, нібыта камандзір у вайсковай часці. Пасля паступлення ў медыцынскі інстытут сын стаў жыць асобна ад бацькоў, і гэта дазволіла яму напоўніцу адчуць адсутнасць бацькавай аўтарытарнай апекі. Мікалай разумеў, што час ад часу трэба раіцца з бацькамі, але канчатковае рашэнне трэба прымаць самому, і гэта будзе па-мужчынску.



Мікалай паглядзеў на бацьку і рашуча сказаў:

— Я згодны з маці, жыць трэба сумленна. Ужо само слова «фіктыўны» ў дачыненні да шлюбу гучыць прыкра.

— Глядзі ты, які разумнік! — незадаволена бліснуў вачыма на сына Павел Рыгоравіч і ўскудлаціў свае рыжыя валасы — пачынаў злавацца.

— Давайце лепей закрыем гэтую тэму, — прапанаваў Мікалай. — Яе проста не было…

— Ты хто такі, каб закрываць тэму?! — усхапіўся Павел Рыгоравіч. — Смаркач!

— Паша, хопіць! — рашуча прамовіла Галіна Мікалаеўна. — Гэта перагіб!

— Закрый рот! — злосна крыкнуў муж.

У кватэры ўсталявалася працяглая цішыня. Парушыў яе Мікалай:

— Ведаеце што, дарагія мае бацькі, апошнім часам я не магу зразумець, чаму вы дасюль разам. Вы ж абсалютна розныя людзі. Вам лепей развесціся і жыць асобна. Ваш шлюб насамрэч стаў фіктыўным…

— Фіктыўным ён быў з самага пачатку, — уздыхнула Галіна Мікалаеўна.

— Што? Што вы сабе дазваляеце?! — выгукнуў Павел Рыгоравіч. Раптам ён зразумеў, што лаяцца гучна няма сэнсу.

— Сямейная рэвалюцыя, — ужо ціхім, надта спакойным голасам прамовіў бацька. — Ну-ну…

Перад тым як Галіна Мікалаеўна пазнаёмілася з Паўлам Рыгоравічам, у аварыі загінуў яе жаніх Арцём, з якім ужо рыхтаваліся не толькі да вяселля, але і да з'яўлення на свет двайнятак. Яны ўжо нагадвалі пра сябе ледзь прыкметнымі рухамі ў чэраве будучай маці. Пасля пахавання Арцёма гэта ўжо не радавала Галіну: трэба жыць далей адной, самастойна гадаваць дзетак…

Халодным восеньскім днём яна чакала аўтобус, каб даехаць да паліклінікі. Адчула на сабе чыйсьці зацікаўлены пагляд. Гэта быў высокі плячысты мужчына. Не прыгажун, але ў яго постаці, паглядзе адчувалася ўпэўненасць, самавітасць. Калі Галіна паглядзела на яго, ён не адвёў вачэй, а прыязна пасміхнуўся.

У аўтобусе мужчына сеў побач. Яны крыху паразмаўлялі. Павел прапанаваў сустрэцца і прадоўжыць знаёмства.

— Навошта? — ціха спытала яна.

— Прагуляемся, павячэраем у кафэ, пагаворым. Я бачу, што вам неспакойна, — адказаў Павел і, крыху памаўчаўшы, спытаў: — У вас штосьці здарылася?

— А хіба гэта бачна?

— Бачна. — У голасе Паўла гучалі спагада і чуласць, і Галіна згадзілася на сустрэчу. Праз месяц Павел зрабіў ёй прапанову.

— Яна яшчэ будзе думаць! — усхвалявана гаварыла Галіне маці. — Гэта ж святы чалавек, бярэ яе з двума дзеткамі, а яна будзе думаць! Людцы добрыя, паглядзіце на дурніцу!

Аднойчы Галіна пайшла на клады, да магілы Арцёма, каханне да якога жыло ў яе сэрцы. Шумеў вецер, хістаючы кроны бязлістых дрэў. У гэтае перадзім'е ёй здавалася, што ў жорсткім, няўтульным свеце толькі вочы Арцёма праменяцца цеплынёй з фотапартрэта. «Што мне рабіць, Арцёмка?» — пыталася яна. І тады нават вецер сцішыў сваё дыханне, быццам даючы ёй магчымасць атрымаць адказ…

Вялікага вяселля не было. Маладзёнаў прыйшлі павіншаваць толькі сваякі ды блізкія сябры. Твар Паўла свяціўся шчасцем, Галіна сарамліва пасміхалася, прымаючы віншаванні…

Аднак на сёмым месяцы цяжарнасці Галіна страціла абодвух дзетак. Як патлумачылі дактары, спачатку загінуў адзін плод, а потым атруціў другое дзіця.

— На ўсё воля Бога, — казала Галіне маці. — Ён пашкадаваў Паўла. Цяпер не давядзецца гадаваць чужых дзяцей. А ты, дачушка, яшчэ народзіш, і ўсё ў вас будзе добра…

Галіна слухала маці і ціха плакала. Час пакрысе гаіў яе раны, ён жа паступова абвяргаў выраз «сцерпіцца-злюбіцца». Цярпець Галіна навучылася, а вось пакахаць Паўла так і не змагла.

Муж быў клапатлівым, цярплівым, тактоўным — спадзяваўся, што сэрца Галіны ўрэшце адтае і яна шчыра пакахае яго. А потым стаў папракаць.

— Я ўратаваў цябе ад самагубства, ахвяруючы сабой. А ты... Чаму не хочаш дзіця?

«Таму, што не кахаю цябе!» — хацелася крыкнуць Галіне.

Праз тры гады сумеснага жыцця ў Галіны і Паўла нарадзіўся светлагаловы, як анёлак, хлопчык. Усю сваю пяшчоту Галіна аддавала яму. Нядзіўна, што, падрастаючы, сын гарнуўся да маці. Адносіны ў іх былі больш чым даверлівыя.

Бацькава строгасць спачатку палохала хлопчыка, крыху раздражняла Галіну. Цяпер жа яна была ўдзячная мужу, што дзякуючы яго строгасці сын не курыць, не п'е, пазбягае сумніўных кампаній.

— Ну хоць у гэтым ты ацаніла мяне, — задаволена прамовіў Павел Рыгоравіч, калі ў дзень яго нараджэння ў віншавальным тосце жонка падзякавала яму за выхаванне сына.

Праз два дні пасля канфлікту з бацькам Мікалай паехаў на вучобу. Праводзіўшы сына, Галіна Мікалаеўна вярталася дамоў, падсвядома адчуваючы, што там яе чакае навальніца. І яна грымнула.

— Я даўно бачу, што ты хочаш волі! — крычаў, сціснуўшы кулакі, муж. — Гэта ж трэба, падвучыла сына выдаць такое: бацькі, вы абсалютна розныя людзі… А можа, ён і не мой сын?!

— Дадумаўся, што сказаць, — уздыхнула Галіна Мікалаеўна. — Ты ж добра ведаеш, што ў вас з Мікалаем аднолькавая рэдкая чацвёртая група крыві з адмоўным рэзусам. Можа, хочаш зрабіць экспертызу?

— Навошта? Я ўжо сказаў яму, што сын не можа рабіць пра бацьку такія вывады. А калі зробіў, то які ён мне сын?

— Ты што, п'яны? — Галіна Мікалаеўна адчула, што ёй стала не хапаць паветра. — Ён жа яшчэ, лічы, дзіця…

— Дзіця, — зрабіўшы грэблівую міну, паўтарыў Павел Рыгоравіч. — А ты ведаеш, што ён мне адказаў?

— І што?

— Адным словам адказаў: абыдземся. Не абыдуся, а абыдземся. У множным ліку! — у вачах Паўла Рыгоравіча бліснулі агеньчыкі шалу.

«Не, ён не п'яны», — падумалася Галіне Мікалаеўне.

— Дык вось што я табе скажу, дарагая, — слова «дарагая» Павел Рыгоравіч гучна выдзеліў. — Калі надумаеш разводзіцца, то разводу я табе не дам, а калі станеш дабівацца — пабачыш, што будзе…

— І што ж будзе? — Галіна Мікалаеўна рашуча паглядзела мужу ў вочы.

— А вось што! — Павел Рыгоравіч рэзка крутнуўся, схапіў са стала талерку і шпурнуў яе ў бок жонкі. Талерка разбілася аб сцяну, праляцеўшы каля галавы жанчыны. Адзін з аскепкаў балюча ўкалоў шыю.

Муж пайшоў з кватэры, гучна бразнуўшы дзвярыма.

Галіна Мікалаеўна дастала з сумачкі сурвэтку, прыклала яе да шыі і села на крэсла.

— Што здарылася, Галя? — у дзвярным праёме з'явілася суседка Вольга Сяргееўна. — Твой ледзь не збіў мяне з ног…

— Заходзь, сяброўка, што выглядваеш, нібыта разведчык з-за вугла, — сумна пасміхнулася Галіна Мікалаеўна.

Вольга Сяргееўна прысела на крэсла каля яе, трывожна-спагадліва зазірнула ў вочы. І Галіна Мікалаеўна не стрымалася: прытулілася да яе пляча і гучна зарыдала.

**Віктар ШНІП**

## СНЫ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

*табе прысніўся верш*
*не верш, а два радкі*
*як дзве паралельныя*
*павуцінкі*
*што перасякаюцца*
*нібыта рыфмуюцца*
*у вечнасці*
*дзе цень ад вясла*
*ля ціхай прыстані*
*на тонкім лёдзе*
*як на небе*

*зноў грукоча суботні*
*трамвай*
*па белым горадзе*
*дзе яшчэ нядаўна было*
*сена на асфальце*
*і людзі прачынаюцца*
*а табе сніцца музыка*
*у якой першы снег*
*ляціць і ляціць*
*як у снежным гадзінніку*
*які паказвае*
*шэсць гадзін раніцняй*
*Паэзіі*

*і сніцца табе дрэва*
*не проста дрэва*
*ядлоўцавы куст*
*і скача па ім сініца*
*страсаючы снег як сон*
*з калючых галінак*
*як з церняў*
*і ты ідзеш як лесавік*
*па лесе да сонца*
*як да кастра*
*і шэпчаш як малітву*
*мой свеце ясны*

*і ўсё было і нічога*
*і галубіная лёгкая*
*пошта*
*прыносіла лісты*
*і лістоту*
*і ты чытаў*
*і слухала неба*
*куды быў завінчаны дым*
*з коміна роднай хаты*
*дзе сны ў падушках*
*матуліных*
*самыя салодкія*
*якія ніколі ўжо*
*не прысняцца*
*табе і сябрам*
*бо ўсё было*

*і ў тумане лугавым*
*стаіць як на востраве*
*на стозе бусел*
*і ты ідзеш да яго*
*як Ной*
*маладым і прыгожым*
*і плыве сонца*
*за тваёй спінай*
*як твой Каўчэг*
*напоўнены паэзіяй*

*ізноў прысніўся верш*
*не верш, адзін радок*
*кароткі як працяжнік*
*паміж датамі*
*на помніку*
*і бясконцы*
*як твая сцежка*
*праз вечнасць*

# Патрыцый выгнаны й запрошаны

**На сыходзе зімы магло б споўніцца 80 гадоў Міхасю Стральцову. Але, на вялікі жаль, незабыўнага і непаўторнага Майстра няма з намі ўжо амаль 30 год. І можна толькі ўявіць, колькі б мог напісаць творца такога магутнага таленту, пражыві ён яшчэ хаця б пару дзесяцігоддзяў.**



*Міхась Стральцоў.*

І ўсё ж нават за паўстагоддзя свайго няпростага, насычанага выпрабаваннямі жыцця ён стварыў мастацкія шэдэўры, якія паспяхова прайшлі выпрабаванне часам, не страціўшы сваёй каштоўнасці і актуальнасці ў наш час. Дык якім жа ўяўляецца нам, людзям іншага стагоддзя бы іншай гістарычнай эпохі, творчая спадчына і асоба Міхася Стральцова? У кожнага чалавека на гэтае пытанне можа быць свой адмысловы адказ, а ў мяне — вось такі...

Бадай, першае, што адразу кідаецца ў вочы пры разглядзе творчасці Стральцова, — гэта ягоны мастацкі ўніверсалізм, надзвычай шырокі творчы дыяпазон і вельмі высокая якасць абсалютнай большасці напісаных твораў. Улічваючы гэта, рызыкну сцвярджаць, што гадоў трыццаць таму назад славуты Алесь Адамовіч усё-ткі не меў рацыі, калі ў прадмове да тома выбраных твораў Стральцова прызнаваў за ім больш значны талент празаіка ў параўнанні з талентам паэта. Але ж, па-мойму, з цягам часу стала абсалютна відавочным, што Міхась Стральцоў быў роўнавялікі як у паэзіі, так і ў прозе. Карацей кажучы, ён быў сапраўдным мастаком-універсалам, выключна таленавітаму пяру якога былі аднолькава падуладныя і вершы, і апавяданні, і аповесці, і эсэ, і літаратурна-крытычныя артыкулы, і рэцэнзіі. У гэтым сэнсе не будзе перабольшаннем казаць: ён набліжаўся да агульнапрызнаных пісьменнікаў-геніяў.

Увогуле, Міхася Стральцова з поўным на тое правам можна назваць непараўнальным віртуозам прыгожага пісьменства, паколькі ён у розных галінах літаратуры сапраўды віртуозна абыходзіўся з вершаваным і празаічным словам, радком, сказам. І хаця на першы погляд магло падацца, што гэтае выкшталцонае майстэрства давалася яму лёгка, аднак найчасцей за ім хавалася напружаная і нястомная праца. І як у сапраўднага музыканта-віртуоза, многія творы пісьменніка вызначаліся гарманічнасцю і глыбінёй гучання, паўшанай эмацыянальнасцю, а часам і экспрэсіўнасцю. Прычым ён заўжды быў вельмі патрабавальным да сябе і ніколі не дазваляў апускацца ніжэй высока пастаўленай самім жа сабой планкі.

Стральцоў не любіў ніякай цьмянасці, блытанасці, шматслоўнасці ў мастацкіх тэкстах, а таму сам быў ашчадным, пераборлівым у выбары сродкаў выразнасці, мастацкіх прыёмаў, а таксама па-добраму скупым на словы. Тут ён нібы следаваў своеасабліваму запавету найбуйнейшага іспанскага паэта XX стагоддзя Антоніа Мачада, які лічыў шматслоўе недаравальным грахом для паэта і патрабаваў ад творцы ёмістай лаканічнасці. Уменне так пісаць можна небеспадстаўна лічыць найвышэйшым пілатажам як для паэта, так і для празаіка. І звычайна такое выключнае майстэрства прыходзіць (калі ўвогуле прыходзіць), як і ў пілотаў, пасля працяглай тэарэтычнай падрыхтоўкі і многіх гадоў нястомнай практыкі.

Паэтычныя і празаічныя творы Стральцова былі найчасцей яснымі, празрыстымі па задуме і змесце, зграбныя па форме. І гэта заканамерна, бо аўтар, перш чым свае тэксты друкаваць, заўжды, відаць, імкнуўся для сябе спачатку *пра-ясніць* тое, што ён хоча сказаць, чым падзяліцца з чытачом. Відаць, таму і яго апошні прыжыццёвы паэтычны зборнік меў сімвалічную назву «Мой свеце ясны» (1986). Ледзь не на ўсіх без выключэння творах Стральцова ляжыць пячатка майстра (прыгадайма тут кнігу яго літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ пад назвай «Пячатка майстра»), а можа быць, нават і пячатка творчага генія. Часам здаецца, што ён нават і жыў так, нібы дыхаў не толькі паветрам, але й самім мастацтвам, паэзіяй, пра што ўскосна можа сведчыць красамоўная назва адной з ранніх кніг аўтара — «Жыццё ў слове» (1965).

У гэтым кантэксце адразу згадваюцца наступныя словы нямецкага паэта Фрыдрыха Гёльдэрліна з паэтычнай мініяцюры «Самому сабе»:

*Зведай мастацтва ў жыцці,*
*жыццю ў мастацтве навучыся,*
*Ўгледзіш як след адно —*
*ўбачыш другое тады.*

І сапраўды, у творчай біяграфіі Стральцова жыццё і мастацтва былі шчыльна звязаныя, часам прадвызначаючы эвалюцыю адно аднаго. Метафарычна кажучы, ён яшчэ ў свой дакамп'ютарны, даэлектронны час усе словы спачатку, відаць, акуратна і няспешна ўзважваў, нібы дасведчаны аптэкар лекі на звышдакладных вагах, а затым адбіраў з іх для абнародавання толькі тыя, якія ў найбольшай ступені адпавядалі зместу і форме твора. Пра такое паважліва-далікатнае стаўленне Стральцова да мастацкага слова яскрава сведчыць вось гэтае яго чатырохрадкоўе:

*Над словам і над гукам,*
*Даўмеўшыся пары,*
*Спярша на рукі хукай,*
*Пасля ужо твары.*

А зараз, як ні парадаксальна тое можа прагучаць, хацелася б назваць Міхася Стральцова «наватарскім традыцыяналістам». Што гэта значыць? А найперш тое, што ў сваёй творчай практыцы (прычым як у паэзіі, так і ў прозе) ён заўжды імкнуўся спалучаць традыцыйнае і наватарскае, выкарыстоўваць як даўно вядомыя формы і жанры прыгожага пісьменства, так і шукаць новыя сродкі і спосабы мастацкай выразнасці. Апрача таго, Стральцоў імкнуўся сінтэзаваць і розныя мастацкія стылі, кірункі, таму ў яго творах можна без асаблівых цяжкасцей знайсці праявы такіх стыляў, як рэалізм, рамантызм, сімвалізм, экзістэнцыялізм і нават… сюррэалізм.

А калі паспрабаваць вызначыць, што ж канкрэтна для абнаўлення айчыннай літаратурнай прасторы зрабіў Стральцоў, трэба сказаць наступнае. Па-першае, ён быў фактычна заснавальнікам новага для беларускай літаратуры жанру т.зв. «аповесці-эсэ», яскравым узорам чаго з'яўляецца яго бліскучы твор пад назвай «Загадка Багдановіча» (1967 — 68). І ўжо значна пазней — у пачатку XXI стагоддзя — некаторыя нашы пісьменнікі працягнулі пошукі ў вызначаным класікам кірунку, пра што сведчыць, напрыклад, публікацыя рамана-эсэ «Мяжа» Андрэя Федарэнкі.

Па-другое, менавіта Міхась Стральцоў аднойчы асмеліўся, так бы мовіць, адчыніць сваю велічную браму Прозы і гасцінна ўпусціць туды яе вялікасць Паэзію. Такое своеасаблівае злучэнне ці ўзаемапранікненне прозы і паэзіі адбылося ў ягонай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» (1966), якая ўпершыню ў айчыннай літаратуры пачынаецца і заканчваецца свабодным вершам.

Па-трэцяе, Стральцоў у сваёй творчасці (асабліва ў першай паэтычнай кнізе «Ядлоўцавы куст») нярэдка эксперыментаваў з формамі, відамі і жанрамі верша. Гэта выяўлялася, скажам, у шырокім выкарыстанні малараспаўсюджанага ў той час верлібра, у насычэнні паэтычнай тканкі інтэлектуалізмам, ва ўменні віртуозна працаваць са шматлікімі вершаванымі памерамі ды інтанацыямі, надаваць вершу складаны рытміка-інтанацыйны малюнак, у чым ён трохі апярэдзіў нават такога выдатнага паэта-эксперыментатара, як Алесь Разанаў.

І яшчэ. Успамінаецца, што калі Стральцоў вымушана знаходзіўся ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, то ў адным з напісаных тады вершаў ён назваў сябе «выгнаным патрыцыем». Безумоўна, у той час гэтае вызначэнне было цалкам апраўданым, слушным і горкім. Аднак тут варта, відаць, падкрэсліць, што гэтае своеасаблівае выгнанне было (дзякаваць богу!) адносна нядоўгім і працягвалася дзесьці каля года, а ў астатні час адораны пісьменнік працаваў у розных установах, пісаў свае творы і выдаваў кнігі, меў магчымасць перыядычна сустракацца з чытачамі. І вось сёння, асэнсоўваючы ўвесь жыццёвы і творчы шлях Стральцова, яго можна было б назваць не выгнаным, а хутчэй «запрошаным патрыцыем». Спытаеце, чаму? Ды таму, што, гаворачы прыземлена-рэалістычна, яго, як таленавітага творцу і проста абаяльнага, дасціпнага чалавека, заўжды любілі запрашаць да сябе шматлікія прыхільнікі ягонай творчасці, каб пачуць сакавітае слова, даведацца пра ягоныя думкі, патаемныя надзеі й перажыванні.

А гаворачы ўзнёсла-метафарычна, выкажам меркаванне (здагадку?), што пры жыцці Стральцоў быў ласкава і гасцінна запрошаны музамі на высокі Парнас, дзе займаў адно з пашанотных месцаў, а пасля сваёй заўчаснай смерці быў запрошаны Богам і Вечнасцю на неба і, стаўшы там зіхоткай зоркай, мажліва, і дасюль нам свеціць сваім нязгасным і шчодрым святлом. А яшчэ, здаецца, кожны чалавек, які час ад часу звяртаецца да незабыўных твораў Міхася Лявонавіча, нібыта запрашае яго ў свае душу і сэрца і там вядзе з ім глыбока інтымны дыялог.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ**

# 1/365




**Раз на год, 21 лютага, адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Для краіны з дзвюма дзяржаўнымі мовамі гэтае свята набывае асаблівае значэнне. І адзначаюць яго студэнты й навукоўцы, спецыялісты-філолагі і ўсе неабыякавыя да лёсу мовы тытульнай нацыі. Прычым свята атрымліваецца насамрэч святам — з музыкамі, гульнямі, кірмашамі, новымі знаёмствамі, традыцыйнымі беларускімі пачастункамі. Дык куды пайсці 21 лютага сёлета?**

## ДРАНІКІ Ў АЛЬМА-МАТАР

Студэнтам наконт святкавання перайматцца няма чаго: ці не кожная ВНУ краіны ладзіць да Дня роднай мовы шэраг мерапрыемстваў. Найяскравейшы прыклад — Інстытут журналістыкі БДУ, дзе ДРМ будзе адзначацца сёмы раз. Гэтае свята, па азначэнні саміх арганізатараў, сталася візітнай карткай журфака. «Мерапрыемства стала традыцыйным і палюбілася кожнаму студэнту і выкладчыку. І гэта нядзіўна, бо з кожным годам арганізатары свята максімальна крэатыўна падыходзяць да тэмы. Так, мінулым разам мы "прыслухоўваліся" да роднай мовы. Памятаеце? Прагляд "Сяброў" на беларускай мове, майстар-клас па стварэнні цудоўных "домікаў мар", шэраг гульняў, выступ рок-групы "Мутнае Вока", доўгачаканыя дранікі...»

Да Дня роднай мовы на журфаку рыхтуецца цэлая каманда, якая ўключае прадстаўнікоў мясцовых савета старастаў, студэнцкага і творчага саюзаў. Сёлета журфак упершыню праводзіць прымеркаваны да свята конкурс малюнкаў на асацыяцыю з роднай мовай — «ад дранікаў да партрэта бабулі з роднай вёскі на Палессі». Малюнак мусіць суправаджацца назвай і тлумачэннем — чаму менавіта гэтую выяву вы абралі. Работы прымаюцца да 20 лютага, таму, калі вы студэнт, яшчэ можаце паспець узяць удзел.

Падчас святкавання ДРМ навучэнцы імкнуцца размаўляць выключна па-беларуску; на Кальварыйскай праводзяцца семінары, гульні, майстар-класы, творчыя вечарыны з кіно і вершамі. Так, пераклад на беларускую мову культавага сіткома «Сябры» мусіць быць прэзэнтаваны й сёлета. Гэтаксама абяцаныя нязменныя дранікі.

## ГУЛЬНІ СА СЛОВАМІ

Вялікая праграма ладзіцца 21 лютага ў клубе «Грай». Галоўная мэта — «паказаць, што беларуская мова не толькі жыве і развіваецца, але і натхняе вялікую колькасць людзей на цікавыя ды яскравыя праекты». Пачынаецца свята а 18-й гадзіне. Да самага завяршэння (а свята будзе доўжыцца да 22.00) у галоўнай зале будзе праходзіць клубная інтэлектуальная гульня «Грай-квіз», прысвечаная беларускай культуры «ў шырокім сэнсе», як адзначаюць арганізатары. Гульня ўключае сем тураў, у якіх колькасць пытанняў змяншаецца ад дзевяці напачатку да трох — у апошнім туры. У той жа час у іншай зале будзе ладзіцца «Гульнятэка» з беларускамоўнымі настолкамі («Багач», «Казачнік», «Прастол ВКЛ»).

Цалкам лагічна, што ў час святкавання ДРМ адбудзецца прэзентацыя другой часткі кнігі Глеба Лабадзенкі і Алесі Літвіноўскай «Мова нанова: 20 крокаў да беларускай мовы». Урокі гэтым разам увабралі ў сябе 17 лексічных і граматычных тэм, а таксама тры тэмы, прысвечаныя Якубу Коласу, Васілю Быкаву і Рыгору Барадуліну (што цікава, пра Якуба Коласа пісалі ягоныя нашчадкі).

Для аматараў нашай музыкі зайграюць гурты *Zanzibar, Recha* і *Znarock*. У той жа час «Арт-Сядзіба» ладзіць музычны флэш-моб у сацыяльных сетках. Кожны дзень да 21 лютага ўдзельнікі сацсеткі «УКантакце» размяшчаюць на сваіх старонках беларускамоўныя песні з хэштэгам #нашамова. Кожны дзень — новая тэма: песня, на якую ты «падсеў» упершыню; песня, якую лічыш адной з лепшых; песня, якую мусіць ведаць кожны беларус; песня пра цябе самога, пра каханне, улюбёная калыханка — і яшчэ з дзясятак тэмаў.

## МОВАЙ ДАБРЫНІ

Музыка, родная мова і дабрачыннасць аб'яднаюцца падчас канцэрта «Рок дзецям на Дзень роднай мовы», што адбудзецца 22 лютага ў «Пабе Бругге». Тут зайграюць гурты *#SPRBZ / THESUPERBULLZ*, «ВАРОНА», *BarRokka*, «Дабл!» і «Р'э Мажор». Уваход на канцэрт вольны, і кожны ахвотны можа ўзяць удзел у дабрачыннасці для дзетак. Для гэтага дастаткова прынесці фарбы, фламастары, крэйду, паперу для маляванням, алоўкі, гліну, пластылін — «адным словам, усё неабходнае для творчасці!» Сабраныя рэчы будуць перададзеныя ў дзіцячы дом.

А як вы адзначыце Дзень роднай мовы?..

**Падрыхтавала Наста ГРЫШЧУК**

**Дарэчы:**

**Цэнтр беларускай мовы распачаў дзейнасць у Гомелі. Адкрыццё пляцоўкі было прымеркаванае да старту другога сезона гуртка ўжытковай беларускай мовы «Лемантар». Цяпер тут ладзяцца сустрэчы і мерапрыемствы, прысвечаныя беларускай культуры, гісторыі і сучаснасці, заняткі дзіцячага гуртка «Мова дзяцей», кінапаказы. На базе Цэнтра таксама будуць працаваць бібліятэка і куток настольных гульняў, а яшчэ — што бачыцца нам самым галоўным — гарачая тэлефонная лінія па пытаннях абароны правоў беларускамоўных грамадзян. Адрас Цэнтра беларускай мовы: Гомель, вул. Кірава, 3, пакой 1-8 (1 паверх).**

# Рэдагаванне як мастацтва

**Мова — вялікая культурная каштоўнасць і, як кожны скарб, мае сваіх ахоўнікаў і даглядчыкаў. У гэтым пачэсным шэрагу — мовазнаўцы і выкладчыкі, карэктары і рэдактары, якія літаральна днямі займелі новае доўгачаканае выданне — першы ў Беларусі «Даведнік па літаратурнай праўцы». Аўтар Пётр Жаўняровіч — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — працаваў над гэтай кнігай цэлых дваццаць гадоў. Прэзентацыю даведніка падчас XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу наведаў рэдактар выдання — вядомы мовазнаўца Віктар Іўчанкаў. Віктар Іванавіч павіншаваў калегу і акрэсліў месца яго работы сярод грунтоўных мовазнаўчых прац:**

— Пётр Жаўняровіч стаў своеасаблівым беларускім Разенталем, хаця аўтарытэт славутага савецкага лінгвіста дагэтуль застаецца непераўзыдзеным. Дзітмар Разенталь — аўтар даведнікаў па літаратурнай праўцы і рэдагаванні, якімі карысталіся шмат пакаленняў студэнтаў і філолагаў. Для XX стагоддзя, для Савецкага Саюза і постсавецкай культуры ён зрабіў надзвычай патрэбную справу: тады ў афіцыйнай культуры камунікацый вельмі цанілася правільнае слова — дзе пастаўлены націск, якая форма ўжытая... Нармалізатарскі дух лунаў у паветры — сёння ж імператыўнасць, строгая абавязковасць нормы мала каму патрэбная. Цяпер многія моўныя нормы дыспазітыўныя. Напрыклад, Пётр Пятровіч настаяў, каб у яго даведніку, які з цягам часу, з перавыданнямі таксама будзе, мяркую, кананічным, формы тыпу *асаблівасці, уласцівасці* пісаліся з канчаткамі *-аў, -яў*. Аўтар мае на гэта права. Але зразумела, калі б гэта быў Разенталь, то ён бы ніякім чынам не прыняў такую дыспазіцыйнасць... Стаўленне да моўных норм у даведніку Пятра Жаўняровіча і працах Дзітмара Разенталя, вядома, некалькі адрозніваецца...

Важная асаблівасць «Даведніка па літаратурнай праўцы» — увага аўтара да спрэчных момантаў «Закона аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», пазначэнне норм, не зафіксаваных у гэтым зводзе правіл. Цікава, што ў выданні ў якасці прыкладаў выкарыстаны тэксты больш як 6000 аўтараў. Пётр Жаўняровіч імкнуўся паказаць усю разнастайнасць існавання мовы ад Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча да сённяшніх маладых творцаў, а таксама прадэманстраваць, як змянялася стаўленне да пэўных слоў і выразаў. «Даведнік па літаратурнай праўцы» складаецца з шасці раздзелаў:

— Як зямля стаіць на трох кітах, так і для вуснага маўлення галоўныя тры кіты — лексічны ўзровень, дзе галоўнае для нас — сэнс; марфалагічны, дзе гаворыцца пра формы слова; сінтаксічны, дзе паказваецца таленавітасць аўтара ў выказванні думкі. Першая, другая, шостая часткі даведніка датычаць толькі пісьмовага тэксту — яны прысвечаны арфаграфічным, пунктуацыйным і тэхнічным нормам, — распавёў Пётр Жаўняровіч.

Шаноўныя мовазнаўцы не толькі абмяркоўвалі арфаграфічныя і марфалагічныя нормы — падчас прэзентацыі знайшлося месца лірыцы...

— Кузьма Чорны казаў, што мова — гэта жывая істота. Таму да слова, да мовы, да тэксту трэба ставіцца як да жывой істоты, — адзначыў аўтар даведніка. — Праца рэдактара — на карысць Яго Вялікасці Слова, любы ўнёсак для яго росквіту дапушчальны. Згадаем радкі Уладзіміра Караткевіча: «Ці павінны паэт, які перакладае, памерці ў тым, каго перакладае?» Адпаведна, ці павінны рэдактар, які рэдагуе, памерці ў тым, каго рэдагуе? Павінны, з аднаго боку, і памерці, з іншага — праявіць прынцыповасць, калі гэтага патрабуе тэкст, — галоўнае, як успрыме тэкст чытач. Рэдактару пастаянна даводзіцца знаходзіць выхад са складаных сітуацый, таму праца рэдактара, безумоўна, творчая, гэта не майстэрства, а мастацтва.


Фота Аляксандра Каменчуковa.

*Пётр Жаўняровіч (злева) і Віктар Іўчанкаў на прэзентацыі «Даведніка па літаратурнай праўцы».*

Даведнік пабачыў свет у выдавецтве «Адукацыя і выхаванне», якое з'яўляецца філіялам кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі. А неўзабаве ў выдавецтве «Янушкевіч» можна будзе знайсці яшчэ адну кнігу Пятра Жаўняровіча — пераклад рамана Фёдара Дастаеўскага «Браты Карамазавы» на беларускую мову. Пётр Жаўняровіч — чалавек, які мае багата зацікаўленняў і гатовы падзяліцца не толькі плёнам навуковых даследаванняў, але і творчымі здабыткамі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Мастак-паэт, мастак-спявак

## Чараўніцтва пейзажа Антона Бархаткова

**Вядомы беларускі мастак Антон Бархаткоў быў аддany жывапісу цалкам. Ён адчуваў кожную травінку, кожнае дрэўца, любіў радзіму за пяшчотную прыгажосць. Здаецца, праз яго творы можна адчуць нават водар прыроды. Яго творчасць — дарагі скарб беларускага мастацтва, які, дзякуючы намаганням сыноў Антона Стэфанавіча, захаваўся на нашай зямлі. Сёлета адзначаецца сто гадоў з дня нараджэння майстра. З гэтай нагоды ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка «Стагоддзе Антона Бархаткова».**


*«Майскі дзень. Вёска Повязнь», 1972 г.*

Майстар лірычнага пейзажа Антон Бархаткоў быў чалавекам сціплым і спакойным. У складаныя часы ніколі не апускаў рукі. Яму давялося прайсці праз вайну, голад і бядноту. Вытрымаў. Нягледзячы на розныя жыццёвыя перашкоды, жахлівыя падзеі, творца ніколі не губляў веру ў мастацтва, якое было сэнсам жыцця. Менавіта творчасць неаднойчы дапамагала выжыць: калі падчас вайны ён дабіраўся з Луганска да роднай вёскі Шчаглоўка, што на Магілёўшчыне, маляваў партрэты з фотаздымкаў за ежу, дзякуючы чаму былі сілы ісці далей.

Стаць мастаком — мара Антона Стэфанавіча з дзяцінства. Калі жыў у вёсцы, вельмі хацеў патрапіць у Маскву, пра якую так многа расказвалі мясцовыя жыхары. Аднойчы мастак назбіраў вядро ягад, аддаў іх начальніку чыгуначнай станцыі і атрымаў квіток на цягнік, толькі не да Масквы, а да Унечы. Адтуль дабіраўся як атрымлівалася. Але ж Масква аказалася не надта ветлівай: не было дзе прыпыніцца, даводзілася спаць на лаўках, шукаць ежу, дзе прыйдзецца. Яго злавілі і адправілі на выхаванне ў вайсковую частку. А праз некаторы час ён упершыню пабываў у мастацкім музеі. Тады ж цвёрда вырашыў паступаць у Маскоўскае мастацкае вучылішча памяці 1905 года.

І ўсё атрымалася. Але Антон Бархаткоў ніколі не быў залежным ад грошай і славы. Ніколі не жадаў займаць высокіх пасад. Для яго гэта было неістотна, галоўнае — мастацтва, якое павінна нарадзіць гармонію ў душы, павінна абудзіць чалавека ад звычайнасці, паўсядзённасці.

— Пра тату мне цяжка казаць, таму раскажу толькі пра мастака Антона Бархаткова. Я не ведаю чалавека больш адданага мастацтву, чым Антон Стэфанавіч, — адзначае Ігар Бархаткоў. — Ён быў цалкам у творчасці, вельмі любіў свае работы, заўсёды думаў, як і пры якім святле яны лепш будуць выглядаць. Дзіўна, бо ён быў хлопчык з вёскі, беспрытульнік, бедаваў практычна да канца жыцця, але да грошай ставіўся спакойна. Любую капейку, якая заставалася ў нас у сям'і ці ён неяк здолеў зарабіць, аддаваў на фарбы і палатно. Ён настолькі любіў свае карціны, што калі наступіла перабудова і творы пачалі купляць, яму было цяжка. Да яго прыходзілі купляць творы, а ён іх не прадаваў, здаралася, нават біўся з пакупнікамі. Тата хацеў, каб ніводная яго карціна не была вынесеная за межы майстэрні. Для мяне вялікі гонар, што да сённяшняга дня захавана вялікая частка твораў.


*«Зіма ў вёсцы Гарадок», 1993 г.*

Сваім настаўнікам Антон Бархаткоў лічыў Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, якому быў удзячны за веды і дапамогу: яго творчасць аказала вялікі ўплыў на развіццё аўтара і на станаўленне яго мастацкага стылю. Разам мастакі аб'ездзілі мноства беларускіх мястэчак, адлюстроўваючы прыгожыя краявіды на палатне. Кожны з іх ствараў свой свет, але яны быццам бы існавалі ў мастацкім дыялогу.

У творчасці Антон Стэфанавіч звяртаўся да розных жанраў жывапісу — тэматычнай карціны, партрэта, нацюрмортаў. Аднак найбольш яго захапляў пейзаж. У мастака атрымлівалася не проста адлюстраваць той ці іншы краявід — ён паказваў у творах жыццё: калі глядзіш на палотны аўтара, адчуваеш іх паэтычнасць, чараўніцтва.

— Роўна пяцьдзясят гадоў таму я пазнаёміўся з Антонам Бархатковым, — расказвае мастак Васіль Сумараў. — У Палацы мастацтваў экспанавалася яго персанальная выстаўка, прысвечаная пяцідзесяцігоддзю. Я стаяў ля карціны «Песенька», разглядаў, як яна зроблена тэхнічна. І адчуваю, што хтосьці мне руку паклаў на плячо. Я павярнуўся, гляджу: стаіць перада мной чалавек з добрым тварам і агністымі вачыма. Я адразу зразумеў: гэта мастак. «Ну як?» — спытаў ён. Я адказаў, што любуюся гэтым творам. А ён кажа мне: «Гэта я напісаў». Затым мы прайшліся з ім па выстаўцы, паглядзелі работы. І з таго часу гэты таленавіты чалавек назаўжды ўвайшоў у маё жыццё. Прайшло шмат гадоў, але я і цяпер не страціў хвалявання, якое выклікае ўва мне творчасць Антона Стэфанавіча, таму што ў ёй прысутнічае галоўнае: бывае, мастак дзівіць кампазіцыяй, колерам, наборам фактур, а Бархаткоў захапляе прыгажосцю і ўнутраным настроем. Ён вучыўся ў выдатных майстроў, таму пачуццё густу ў яго было выдатнае. Як гаварыў Язэп Майсеенка, мастак убірае ў сябе ўсё з маладосці: спачатку яму падабаецца творчасць пэўных майстроў, з якіх ён спрабуе браць прыклад, але мінае час, і творца знаходзіць сябе. Антон Бархаткоў у маладосці быў натхнёны творамі настаўніка — Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Але, назапасіўшы досведу, знайшоў сябе. Калі можна дзяліць мастакоў на празаікаў, паэтаў і музыкаў, то Антон Стэфанавіч — паэт, спявак беларускага пейзажа.

Выстаўка Антона Стэфанавіча ў Нацыянальным мастацкім музеі ўяўляе сабой рэтраспектыву яго творчасці. Тут ёсць творы і трыццатых гадоў, і напісаныя ў апошнія гады жыцця. Ёсць і тыя, якія сам мастак нікому не паказваў, якія ні разу не пакідалі майстэрню.

— Калісьці сын Антона Стэфанавіча Ігар Бархаткоў прызнаўся мне, што не змог пераняць у бацькі мастацкія навыкі, таму што майстар быў настолькі заняты сваім «хлебам», што ні на што іншае не было часу. Але ён ганарыцца такім татам. Так і мы павінны ганарыцца яго талентам, — падкрэсліў мастацтвазнаўца Мікалай Пагранаўскі. — Гэта класік беларускага жывапісу, ён стаіць у шэрагу з такімі выдатнымі мастакамі, як Віталь Цвірка, Іван Карасёў, Мікалай Тарасік... Гэта вельмі моцная плеяда майстроў, рэалістычны жывапіс якіх будзе жыць заўсёды.

**Вікторыя АСКЕРА**

# На прыступках гісторыі

**Беларускага мастака Святаслава Федарэнку называюць летапісцам айчыннай гісторыі. У шматфігурных кампазіцыях аўтар супастаўляе падзеі розных часоў і гістарычных эпох, што адлюстроўвае і яго персанальная выстаўка «Мая Беларусь. Летапіс эпохі» ў Мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага.**

Святаслаў Федарэнка — сын вядомага беларускага мастака Мікалая Федарэнкі. Менавіта творчасць бацькі натхніла яго таксама ўзяць у рукі пэндзаль. Усведамленне таго, што яго будучая прафесія — мастак, прыйшло, калі пачаў займацца ў мастацкай студыі.

Сёння майстар працуе ў жанры тэматычнай карціны, якая, згодна з яго меркаваннем, з'яўляецца своеасаблівым асэнсаваннем свету, што дапамагае прасачыць за трансфармацыяй чалавека ў новых рэаліях жыцця. У мастака ёсць творы, якія ён называе дакументальным рэалізмам: праз іх расказвае пра важныя гістарычныя падзеі. Недзе вобразы адлюстраваныя на аснове дакументаў, а недзе гістарычныя фрагменты ўбудаваныя ў твор з дапамогай мастацкага мантажу.

Святаслаў Федарэнка звяртаецца да рэалізму, лічыць, што гэта і ёсць гарант высокай мастацкай формы і зместу. Яго творы — глыбокі позірк на свабоду, якая для кожнага чалавека нібы глыток паветра. Галоўныя героі сюжэтных кампазіцый аўтара — дзеячы беларускай культуры і гісторыі. Сярод іх — Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Максім Багдановіч…

Вялікія і шматлюдныя палотны майстра сведчаць пра маштабнасць яго ідэй. Ён піша не толькі тое, што ляжыць на паверхні, а быццам бы стварае насланенне метафар у адным сюжэце, спрабуючы зрабіць твор больш глыбокім, дакладна адлюстроўваючы час, у якім адбываецца дзеянне. Вялікую ролю ў творчасці Святаслава Федарэнкі адыграла тэма Вялікай Айчыннай вайны і Чарнобыля. Кожная з такіх работ характарызуецца сутыкненнем ракурсаў, трывожнай фрагментарнасцю, духоўнай цэласнасцю. Гэтыя творы кранаюць душу. Каля іх хочацца маўчаць.

**Вікторыя АСКЕРА**



*«Развітанне», 2017 г.*

# «ЛЯЛЬКА — ПРАЦЯГ МАЁЙ РУКІ І МАЙГО СЭРЦА»

**Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Васько на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек з 1980 года. Ён узнагароджаны медалём Францыска Скарыны і «Крышталёвым анёлам» Саюза тэатральных дзеячаў. У творчай скарбонцы артыста шырокі дыяпазон роляў: ад Воланда ў «Майстры і Маргарыце» да хваста (менавіта так!) удава ў «38 папугаях». Адзначыўся ён у пастаноўках мінулага года — «Каляднай гісторыі» і «Евангеллі ад Іуды». Ёсць гледачы, якія пільна сочаць за творчай біяграфіяй артыста і дзякуючы яму імкнуцца лепш разумець асаблівасць тэатра лялек.**

**— Якім быў ваш шлях у прафесію?**

— Даволі лёгкім, нават прадвызначаным. Недзе з 5 класа ў мяне быў канфлікт з настаўнікам матэматыкі, і, хочаш не хочаш, давялося ісці па гуманітарным кірунку. Недзе ў 9 класе я трапіў у Палац піянераў і школьнікаў у так званы тэатр юнай творчасці, дзе і займаўся некалькі гадоў. Аднак пасля школы, у 1974 годзе, пасаромеўся адразу паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут, мне здавалася, што я яшчэ не гатовы, і таму пайшоў працаваць. У наступным годзе я ўжо вырашыўся, але «зрэзаўся» на трэцім туры творчага экзамену. І нарэшце ў 1976 годзе паступіў у інстытут на курс да рэжысёра тэатра лялек Вікторыі Казловай.

**— Вы ніколі не адчувалі расчаравання, што аказаліся звязаныя лёсам з лялечным тэатрам? Як ставіцеся да меркаванняў, што тэатр лялек — другарадны ў параўнанні з драматычным?**

— Калі так склаўся лёс, значыць, гэта было прадвызначана, запраграмавана недзе зверху, і таму ўсё добра. Я лічу, што лялечнае мастацтва — нават больш шматграннае і складанае, чым драматычнае. Драматычны артыст «вынес» толькі сябе на сцэну, сеў у прыгожую позу ці стаў патэтычна — і іграе. Мне ж даводзіцца насіць ляльку, якая іншым разам важыць 7 — 10 кілаграмаў, і я павінны не толькі ажывіць яе праз рухі, але і ўдыхнуць у яе душу, стварыць вобраз.

**— Усімі лялькамі кіруюць аднолькава. Ці існуюць розныя тэхнікі кіравання?**

— Ёсць розныя тыпы лялек: трасцявая — явайка, якая бярэ сваё паходжанне з вострава Ява; планшэтная, яна ўжо кіруецца па-іншаму; марыянетка — на доўгіх нітках. У розных спектаклях выкарыстоўваюцца лялькі розных тыпаў, але могуць быць сабраныя і ў адным прадстаўленні. Ды гэта ўжо прафесійная кухня, у якую я не хачу паглыбляцца.

**— Вы ставіцеся да сваёй лялькі як да неадушаўлёнага прадмета? Яна для вас — тэатральнае прыстасаванне або нешта большае?**

— Мне падаецца, што лялька — нежывы партнёр, якому я павінен перадаць частку сваёй душы. Яна становіцца працягам маёй рукі і майго сэрца. Я адчуваю цеплыню да сваіх лялек. Акцёр у лялечным тэатры — другасны. Менавіта лялька ставарае вобраз. Таму ў тэатры лялек няма такіх «зорак», як на драматычнай сцэне. Гэта камандны від мастацтва, дзе ўсе працуюць на вынік, на ідэю рэжысёра і мастака.

**— У той жа час нярэдка ў лялечным тэатры на сцэну выходзяць і самі артысты, іграюць як у драматычным тэатры.**

— Лялечнае мастацтва сінкрэтычнае. Тут усё залежыць ад бачання рэжысёра. Акцёр — гэта адна з фарбаў, якую наносіць рэжысёр. Таму ў залежнасці ад таго, як рэжысёру зручней, як ён бачыць той ці іншы вобраз, ён і выводзіць на сцэну або ляльку, або артыста.

**— Вы заўсёды выконваеце ўказанні рэжысёра або можаце прапанаваць свой погляд на ролю?**

— Згодна з маім меркаваннем, добры артыст — той, хто не спрачаецца з рэжысёрам, не намагаецца навязаць яму свой пункт гледжання. Я заўсёды стараюся выканаць патрабаванні рэжысёра, зрабіць так, як ён бачыць тую ці іншую ролю, упісацца ў камандны стыль гульні. Бо калі ты хочаш сам паставіць спектакль, то ідзі ў рэжысуру, ніхто ж не забараняе.

**— Ці ўплывае ваша прафесія на характар? Калі прызвычаіцца кіраваць лялькамі на сцэне, можа ўзнікнуць спакуса ў звычайным жыцці быць лялькаводам, ставіцца да людзей як да марыянетак?**

— Я для сябе рэзка падзяляю: тут — праца, а тут — жыццё. Праца — гэта рэпетыцыйны працэс і спектаклі, дзе я жыву нейкім асобным жыццём. Як толькі закрываецца заслона, выключаецца святло рампы, я — звычайны чалавек. Гэта пытанне псіхічнага здароўя: ні ў якім разе нельга змешваць жыццё і мастацтва.

**— Сярод вашых персанажаў пераважаюць станоўчыя ці адмоўныя?**

— Хапала і першых, і другіх. Паколькі я вострахарактарны артыст, то больш было адмоўных, бо яны патрабуюць больш эмацыянальных выдаткаў, больш выразных фарбаў. Таму мне бліжэйшыя ролі нібыта адмоўныя, гэткі тып абаяльнага злодзея. Але для сябе ролі такім чынам не падзяляю. Як і ў рэальным жыцці, тэатральныя персанажы шматгранныя, і цяжка канчаткова вызначыць, што ёсць дабро і зло.

**— Ці змянілася за гады вашай працы ў лялечным тэатры дзіцячая аўдыторыя? Ці не сталі дзеці больш закрытымі, менш успрымальнымі і эмацыянальнымі?**

— Мне здаецца, што характар у дзяцей не змяніўся. Але цяпер яны часам у зале гуляюць на смартфонах (хоць перад кожным прадстаўленнем гучыць просьба адключыць сродкі сувязі), менш цікавяцца тым, што адбываецца на сцэнічнай пляцоўцы. А раней яны былі гэтым захопленыя. Вядома, у пэўнай ступені гэта залежыць і ад якасці спектакля. Калі ўдаецца сапраўды зацікавіць, спектакль глядзяць.

**— Вы выканалі шмат роляў для дзяцей. Якія з іх лічыце больш адметнымі?**

— Такіх роляў было сапраўды шмат, усе нават не памятаю. Тым больш не вызначаю сам, прыкметная роля ці не. Калі я прызначаны на ролю, то мушу яе выканаць якасна. Доктар Айбаліт, цар Салтан, ваўкі, кракадзілы, мядзведзі — каго толькі не даводзілася іграць. У нашым тэатры ставілася тры рэдакцыі «Прыгод Бураціна», і ва ўсіх я іграў Карабаса Барабаса. Сыграў і не зусім тыповую для сябе рамантычную ролю Прынца ў «Папялушцы». Гэта адбылося таму, што ў ёй была даволі складаная вакальная партыя, якую шмат хто спрабаваў выканаць, і мне ўдалося «выцягнуць» спевы.

**— А што вы рабілі як хвост удава?**

— Забяспечваў, каб хвост рухаўся ў розных кірунках і круціўся. Лялька ўдава была на трасцях і мела даўжыню ў некалькі метраў. Ёю кіравалі тры акцёры. Той, хто вёў галаву і пярэднюю частку, агучваў ролю, і ў залежнасці ад яго рухаў астатнія рабілі ўдаву пластыку. У праграмцы спектакля ў якасці выканаўцаў ролі ўдава пазначаліся ўсе трое артыстаў.

**— У вашым рэпертуары нямала спектакляў і для дарослых. А для якой аўдыторыі вам больш падабаецца іграць?**

— Люблю іграць у добрых спектаклях незалежна ад аўдыторыі. Магчыма, перад дзецьмі выступаць нават больш складана, бо за дарослымі ўжо цягнецца нейкі ланцуг жыццёвых назіранняў, перажыванняў, таму ім працей зразумець пэўныя рэчы і ідэі. А дзіця яшчэ чысты ліст, яго трэба зацікавіць, усё падрабязна растлумачыць.

**— У свой час спектакль вашага тэатра «Майстар і Маргарыта» карыстаўся вялікім поспехам. Ці не паўплывала містычным чынам на ваша жыццё выкананне ролі Воланда? Вядома, што некаторыя людзі мастацтва, якія браліся ўвасабляць гэты твор Булгакава, потым расказвалі, што з імі пачыналі адбывацца нейкія дзіўныя рэчы.**

— На маё жыццё роля Воланда ніякім чынам не паўплывала. Напэўна, я не такі адметны і таленавіты акцёр, каб выкананнем гэтай ролі прыцягнуць увагу найвышэйшых сіл.

**— У мінскім тэатры лялек быў пастаўлены і вельмі цікавы спектакль «Гэта ты… Моцарт?», у якім акцёры выконвалі найвядомейшыя арыі і дуэты з опер «Чароўная флейта», «Дон Жуан» і «Вяселле Фігара», прычым не ў адаптаваным, а ў арыгінальным оперным Эварыянце. Вы таксама ўдзельнічалі ў гэтым спектаклі ў ролі Папагена. Як вам удалося выканаць оперныя нумары? Вы раней недзе вучыліся спевам?**

— Падчас падрыхтоўкі спектакля з намі працаваў выкладчык — саліст опернага тэатра. Папярэдне рэжысёр рабіла адбор, хто можа спяваць. Раней я нідзе гэтаму не вучыўся. Але калі ёсць голас, дык заспяваеш. Вядома, калі дадаткова яшчэ ёсць здольнасці ўпарта працаваць, укладаць душу, выпраўляць памылкі і недарэчнасці, тады ўсё можна зрабіць. Увогуле, у мяне добры слых і вялікая схільнасць да музыкі. Калі б мяне адразу ў дзяцінстве аддалі ў музычную школу, можа, я б нават стаў спеваком у оперы ці аперэце.

**— Ці верыце вы, што ў рэальным жыцці магчымае такое духоўнае перараджэнне, якое адбываецца з вашым героем Скруджам у «Каляднай гісторыі»: са скапнага, чэрствага, замкнёнага чалавека пераўтварыцца ў добрага, адкрытага і шчодрага?**

— Напэўна. Бо не на пустым жа месцы Дыкенс напісаў гэты твор. Увогуле, у сталым узросце шмат што пераацэньваеш і пераглядаеш. І я думаю, што нямала людзей, якія доўга збіралі грошы, жылі дзеля сябе, у канцы жыцця станавіліся мецэнатамі, падтрымлівалі дабрачынныя фонды.

**— Зусім іншы ваш персанаж — кардынал Лотар у спектаклі «Евангелле ад Іуды» — антыпод галоўнага героя Юрася Братчыка. Лотар увасабляе жыццёвую спрактыкаванасць, хітрасць, спачатку прымушае Юрася прыняць на сябе ролю ілжэ-Хрыста, а потым за гэта самае асуджае яго на смерць. Як асабіста вы ставіцеся да тых, хто выбівае ўзца з агульнага шэрагу?**

— Кожны выбірае ў жыцці свой шлях. Нехта сядзіць увесь час за камп’ютарам, нехта праводзіць жыццё пустэльнікам, а нехта хоча воляй-няволяй, можа, праз абставіны нешта змяніць у навакольным свеце. Хаця гэта мала каму ўдаецца, але дзякуй Богу, што такія людзі ёсць.

**— У вашай творчай біяграфіі ёсць і досвед у кіно…**



— Толькі адзін. Я зняўся ў шматсерыйным тэлевізійным фільме «Праклятыя ўтульны дом», і менавіта таму, што ён прысвечаны гісторыі Беларусі, дакладней — паўстанню Кастуся Каліноўскага. Роля ў фільме ў мяне невялікая — маладога ксяндза, які прыязджае на змену старому. Спачатку ён не вельмі сімпатызуе паўстанню, але потым нешта для сябе пераасэнсоўвае і пачынае яго падтрымліваць. У выніку майго героя напаткаў трагічны лёс. Калі пазней мне прапаноўвалі здымацца ў фільмах кшталту «Вяртанне Мухтара», я адразу адмаўляўся. І ўвогуле, я не кіноншы артыст, а тэатральны. Існуе такі даволі выразна акрэслены падзел.

**— Вы таксама ўдзельнічалі ў агучванні замежных фільмаў на беларускім тэлебачанні.**

— Вельмі шмат, з 2004 года да 2012-ы. Тады на беларускім тэлебачанні існаваў спачатку французскі канал, для агучвання французскіх стужак, потым на яго аснове быў арганізаваны аддзел дубляжу. Яго супрацоўнікі дубліравалі фільмы, створаныя і ў іншых краінах, — англамоўныя, іспанамоўныя, польскамоўныя… Праца была напружаная і вельмі цікавая, дзеля гэтага сабралі значныя творчыя сілы. Кожны месяц мы агучвалі па 2-3 фільмы. Сярод іх было шмат мультфільмаў, дакументалістыка, вучэбна-пазнавальныя стужкі, мастацкія камедыйныя, любоўныя, дэтэктыўныя, у тым ліку такія папулярныя серыялы, як «Доктар Хаус» і «Набярэжная Арфеўр».

**— У складзе трупы вы не раз бывалі на фестывалях лялечнага мастацтва, у тым ліку за мяжой. Як ацэньваеце ўзровень беларускага лялечнага тэатра ў параўнанні з іншымі?**

— Вельмі высока. І не таму, што я зацікаўленая асоба, а проста аб’ектыўна так і ёсць. Лялечны тэатр у нас недаацэнены від мастацтва. А між тым ён у Беларусі — еўрапейскага ўзроўню.

**Наталля КАНСТАНЦІНАВА,**
**фота аўтара.**

# Знайдзі сябе

## на прыкладзе герояў адзінага ігравога фільма, знятага ў 2016 годзе

**Задумы надзвычай рэдка супадаюць з рэальнасцю. Калі такое ўсё ж здараецца, можна меркаваць пра цуд. Складана казаць, ці супалі чаканні ад новай стужкі «Беларусьфільма» «Сляды на вадзе» з рэальнасцю. Лягчэй удакладніць, што рэальнасць тут вельмі адрозная ад чаканняў.**

Вынікі ад здымкаў фільма-пераможцы адкрытага конкурсу кінапраектаў у краіне чакалі доўга — яго выбралі ў 2015-м, а на экраны стужка выйдзе 23 лютага (21 лютага ў кінатэатры «Масква» адбудзецца прэм'ерны паказ «Слядоў на вадзе» для тых, пра каго кіно створанае, — міліцыянераў), плануюцца і паказы па абласных гарадах краіны. Стужка Аляксандра Анісімава прайшла складаны шлях, хоць яшчэ і не была знятая: некалькі разоў перапрацоўваўся сцэнарый, фільм мусіў здымаць іншы рэжысёр (Ягор Канчалоўскі). Але, нягледзячы на тое, колькі арганізацыйных цяжкасцей прыйшлося пераадолець, кіно, знятае за 26 дзён, у кінатэатрах з'явіцца.

*Гэтая гульня ў «хованкі» ў Анісімава сапраўды атрымалася: знайсці антыгероя адразу складана, яшчэ складаней — змяніць да яго стаўленне, пачаць ненавідзець.*

«Сляды на вадзе» — афіцыйнае прысвячэнне стагоддзю беларускай міліцыі. Здымаць пра сучаснасць? Атрымаўся б, напэўна, «Бандыцкі Пецярбург». Здымаць пра пасляваенны час, калі краіна адраджалася, а разам з ёй і міліцыя, — рызыкоўны шлях для кінастудыі, якую і так называюць «Партызанфільмам». Таму гэта крок яшчэ і смелы.

Асновай стужкі стаў раман прафесара, доктара гістарычных навук і былога палкоўніка міліцыі Мікалая Ільінскага «У надзвычайнай сітуацыі — знішчыць». Па словах аўтара, у рамане шмат сюжэтных ліній, вялікая колькасць герояў, пераплеценняў і падзей, якія ў стужку не ўвайшлі, але на здымачную групу Ільінскі не крыўдуе, бо галоўнае — той невялікі факт, па якім была напісана кніга, стаў і базісам фільма: малады разведчык Смоліч павінны стаць адным з бандытаў, каб знайсці галоўнага злодзея.

Усе ролі ў фільме выканалі беларускія акцёры. Пабудаваная стужка на айчынным матэрыяле, здымалася таксама ў нас. Героі размаўляюць на рускай, польскай і беларускай мовах. Але цалкам беларускамоўнага героя Анісімаў стварыць не стаў, а растлумачыў гэта тым, што ў той час сваёй міліцыі ў Беларусі пасля вайны не было — да нас дасылалі людзей з Расіі.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі (менавіта там адбываецца дзеянне) банды існавалі да пачатку 50-х гг. мінулага стагоддзя. Банда Рыся пачала набегі на Парэчынск. Героі Арцёма Курэня (Смоліч), Пятра Юрчанкова (Крыкуноў), Дзмітрыя Пусцільніка (Лучышын) — абліччa беларускай міліцыі таго часу. Менавіта Смоліч будзе ўкаранiцца ў банду пад выглядам праваднікa. Акцёраў для Анісімава выбраць было няцяжка: Юрчанкова зацвердзілі адразу, Вераніка Пляшкевіч выдатна падыходзіла на ролю, а малады акцёр Арцём Курэнь стаў для рэжысёра вельмі своечасовым адкрыццём.



*Кадр з фільма «Сляды на вадзе» (рэж. А. Анісімаў).*

Стужку ўжо паспелі параўнаць з «Месцам сустрэчы змяніць нельга» і «Ліквідацыяй». З аднаго боку, гэта гучыць прыемна для Аляксандра Анісімава — усё ж параўноўваюць з лепшымі ўзорамі жанру. З іншага ж, калі такія фільмы ўжо ёсць, калі сюжэт у іх амаль аднолькавы, калі знятая наша стужка пазней за астатнія, то навошта наогул яна патрэбная? Усё гэта мы ўжо бачылі. Гэта магло б быць адказам, каб не адно «але». Глядач кожнай краіны, колькі б замежных фільмаў ні пераглядзеў, хоча ўбачыць сябе: на сваёй тэрыторыі, са сваёй мовай і, канечне ж, уласнымі героямі. «Сляды на вадзе» могуць стаць менавіта тым люстрам, у якім мы ўбачым свой адбітак — наш менталітэт, прадкаў, пейзажы. І ўсё гэта тут сапраўды заўважна.

Анісімаў зрабіў сваіх персанажаў шчырымі, чуллівымі і рызыкоўнымі — каб было цікава і акцёрам, і гледачам. Здымалі стужку ў Смалявічах, на Ісчачы, на заводзе Кірава (дарэчы, за прыгажосць краявідаў варта падзякаваць аператару Дзмітрыю Рудзю). Давядзецца апынуцца і ў атмасферы таго часу — над дэкарацыямі працавалі сур'ёзна і старанна. Стварыць вобраз эпохі дапамагла вядомы мастак па касцюмах Наталля Сардарава (досвед працы больш чым у сотні стужак).

*Героі размаўляюць на рускай, польскай і беларускай мовах.*

Акцёры выдатна зрабілі сваю справу (адных — любіш, іншых — ненавідзіш), батальныя сцэны таксама зробленыя сумленна (акцёры кажуць, што піратэхнік наогул рабіў немагчымае: калі куля-мётную чаргу ў падобных стужках трэба здымаць 5 гадзін, то тут хапала 30 хвілін) і без усялякай камп'ютарнай графікі.

У вострасюжэтных бойках і пагонях удзельнічалі самі акцёры, рэальнасць і сны пераплеценыя ў фільме гарманічна і вельмі прыгожа (што ў беларускім кіно атрымліваецца надзвычай рэдка). У фільме гледачы ўбачаць і хроніку (усё ж Анісімаў — перш-наперш дакументаліст): вельмі сімвалічныя нараджэнне дзіцяці, мапа Мінска, які ён ёсць цяпер. Краіна, якую Анісімаў паказаў у «Слядах на вадзе», стала іншай, перарадзілася, калі хочаце, пазбавілася былых хібаў, а хроніка добра гэта адлюстроўвае.

Для 1,5 гадзіны кіно выглядае вельмі насычаным — дэталёва і падзейна. Складаецца ўражанне, што сюжэту б хапіла калі не на серыял, то, прынамсі, на некалькі частак фільма. Але ці гэта дрэнна? Глядач заўсёды ў напружанні, у чаканні, у нейкіх здагадках. Ці не такім павінна быць кіно пра міліцыю? Адчуць сябе на месцы міліцыянера — калі ласка, трапіць у банду — лёгка, здагадацца, хто здраднік, — зроблена! Гэтая гульня ў «хованкі» ў Анісімава сапраўды атрымалася: знайсці антыгероя адразу складана, яшчэ складаней — змяніць да яго стаўленне, пачаць ненавідзець.

Пранікнуцца пачуццямі да герояў менавіта «Слядоў на вадзе» ў гледача атрымаецца з першага кадра, гэта дакладна. Кіно ж сваё, героі блізкія. Аляксандр Анісімаў кажа, што яго стужка разлічаная ў першую чаргу на людзей пакалення больш сталага — на тых, хто яшчэ памятае тую гісторыю, прычым, хутчэй на мужчынскую палову. Але будзе на што паглядзець і жанчынам: у «Слядах на вадзе» кахання больш, чым у самай пачуццёвай меладраме.

Ці можа новая беларуская стужка стаць класікай сучаснага айчыннага кіно, ці будзе на яе бегчы ў кінатэатры глядач? Калі патрабавальную беларускую аўдыторыю «Сляды на вадзе» не ўразяць, то варта ўзгадаць, за які тэрмін знятая гэтая стужка. У кожнага сваё ўяўленне пра тое, якім магло б быць новае айчыннае кіно, якую стужку пра міліцыянераў можна стварыць. Паглядзець гэты фільм варта не толькі таму, што ён айчынны, але і дзеля таго, каб зразумець, якім чынам фарміруецца твар нацыянальнага кіно. Якія рысы мы хочам у ім бачыць?..

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

### Аўтар рамана Мікалай Ільінскі:

— Сама сітуацыя, якая стала асновай фільма, — не выдуманая. Я пісаў кандыдацкую дысертацыю і знайшоў факт, які стаў асновай для кнігі. А фільм глядзеў праз прызму свайго рамана, але разумею, што гэта не адно і тое ж. Для аўтара глядзець на свой твор на экране цяжка. Некаторыя героі тут сталі на іншае месца, кагосьці і зусім не паказалі, але ў кіно свае законы і прынцыпы. Раман я пісаў так, каб усе ўчынкі герояў былі матываваныя, але ўсяго ў стужцы падрабязна не распавядзеш. І ўсё ж фільм атрымаўся.

### Гісторык Віктар Данілаў:

— У кінематографе я не прафесіянал, але ў гісторыі працую даўно. І хачу адзначыць тую дасціпнасць, з якой падышлі да працы мастакі фільма. Нельга не адзначыць музыку: яна кранае да сэрца. Увесь антураж, афармленне, касцюмы — усё рабілі з любоўю і адказнасцю. Але самае галоўнае ўласна для мяне — гэта тое, што персанажы выглядаюць арганічна, яны сапраўды так пачуваліся, не выпадалі з эпохі. Наконт афармлення і формы ніякіх пытанняў быць не павінна. Я ўдзельнічаў у гэтай працы, дапамагаў аднаўляць гістарычнасць і магу сказаць, што гэта рабілася вельмі доўга, дасканала: падрыхтоўка была руплівая і прафесійная.

### Акцёр Пётр Юрчанкоў:

— Мы працавалі ў хуткім, насычаным тэмпе, і тое, што ўбачылі на экране, — вынік працы неверагоднай каманды. Усе працавалі на адным уздыху. Прыйшоў на пробы, а ўжо на наступны дзень пачалі здымаць. Працэс быў неверагодны: мы не размаўлялі адзін з адным ні аб чым, акрамя сваіх герояў, з кадра ў кадр абмяркоўвалі, пыталіся адзін у аднаго. Рэжысёр вельмі тонка падыходзіў да ўсіх: не перашкаджаў, а раіў, трымаў каманду ў «абалонцы». Было вельмі ўтульна працаваць.

### Рэжысёр Аляксандр Анісімаў:

— Здымачная група дапамагла стварыць гэтую карціну неверагодна прыгожай. Без гэтых людзей нічога не атрымалася б: тэрмін здымак быў абмежаваны. Вельмі хацелася даказаць, што ў Беларусі ёсць прафесійныя кадры на ўсіх узроўнях: тут працуюць і беларускія акцёры, многія з якіх, дарэчы, заўважна выраслі за час здымак. Уся здымачная група працавала на карціну, ды і сама гісторыя стала для нас роднай. У выніку атрымаўся атмасферны фільм. Мне падаецца, пад яго не хочацца жаваць папкорн. А гэта значыць, што кіно яшчэ не памерла. Усё, што адбывалася вакол стужкі, мы стараліся не слухаць: рабілі сваю справу шчыра і добрасумленна, астатняе пакідаем на суд гледача.

### Генеральны дырэктар «Беларусьфільма» Ігар Поршнеў:

— У карціны вельмі сціплы бюджэт. Гэта дзяржаўнае фінансаванне — не 100%, мы яшчэ шукалі партнёраў. Упэўнены, што мецэнаты такую выяву пры такіх сродках — сапраўдны подзвіг здымачнай групы і тых, хто працаваў над карцінай. Асабліва хочацца падзякаваць і мастакам па касцюмах, і грымёрам, і піратэхнікам. Якасць фільма значна вышэйшая за выдаткаваныя сродкі. Мы запрасілі на прагляд амерыканскага прадзюсара, які працуе з краінамі Усходняй Еўропы, і спадзяёмся, што пракатны лёс карціны толькі пачынаецца.

ВыДАТна

# Гармонія працы

**Многія музыканты гавораць, што любяць музыку, распавядаюць пра тое, як моцна. І толькі некаторыя ў гэтай любові прызнаюцца. Міхаіл Фінберг, які, дарэчы, святкуе ў лютым юбілей, кажа, што музыка — яго адзіная любоў.**



Зараз імя Фінберга стала сімвалам беларускай папулярнай музыкі. Ён кіруе вялікім калектывам, лічыцца карыфеем беларускай эстраднай музыкі. Узнагароды і званні, якімі ўганараваны Фінберг, можна пералічваць бясконца: народны артыст Беларусі, Кавалер ордэна Францыска Скарыны, уладальнік «Зоркі Міхаіла Фінберга» на Алеі зорак у Маскве... У лютым за свае дасягненні ў музыцы маэстра стаў ганаровым грамадзянінам Мінскай вобласці.

Міхаіл Фінберг амаль 30 гадоў працуе з заслужаным калектывам — Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі.

Міхаіл Фінберг нарадзіўся ў сям'і, якая не была звязаная з музыкай. Але яго з маленства да музыкі цягнула: дырыжор часта ўзгадвае, як бегаў за ваенным аркестрам. Бацькі аддалі хлопчыка ў музычную школу, якая стала першым крокам да дырыжорскай працы. Міхаілу Фінбергу было 22 гады, калі ён трапіў у аркестр беларускага цырка. Музычным выхаваннем ён абавязаны і ўрокам, што атрымаў на гэтай працы.

Музыку як сэнс жыцця Фінберг выбраў сам. І заўважна, што пра гэта не шкадуе. Часта музыкант адзначае, што музыцы трэба прысвяціць сябе цалкам, штодзённа вучыцца, а галоўнае — любіць. З усімі гэтымі заданнямі спраўляецца на выдатна. За гады працы Міхаіл Якаўлевіч назапасіў вялізны досвед, прыклаў неверагодную колькасць намаганняў для таго, каб беларуская музыка была яркай і пазнавальнай. Яго любімым дзіцем і сёння застаецца канцэртны аркестр. Гэтае «дзіця» дапамагло Міхаілу Фінбергу папулярызаваць родную песню: разам з гэтым калектывам ён пачынаў фестываль, які цяпер усе ведаюць як «Славянскі базар у Віцебску», дагэтуль робіць Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна», Міжнародны фестываль «Джаз у Мінску».

Дзякуючы яго імпэту малыя гарады Беларусі займелі камерныя фестывалі. Але адметнасць працы калектыву, якім кіруе Міхаіл Фінберг, у тым, што ён стварае праграмы, прысвечаныя класікам беларускай літаратуры. Такім чынам, дзякуючы яго ідэям складваецца своеасаблівая анталогія беларускай эстраднай песні.

«Маэстра жывога гуку» (а менавіта так называюць Фінберга) працягвае звяртацца да народнай песні, шукае новае ў музыцы і новыя імёны для сцэны. Яго творчыя дасягненні не пакідаюць абыякавымі ні беларускіх, ні расійскіх, ні іншых замежных слухачоў. А Фінберг не лічыць гэта чымсьці звышнатуральным: усё ж поспехі нараджаюцца ў першую чаргу з любові. А яшчэ дзякуючы бесперапыннай працы — вось галоўны рэцэпт музычнага поспеху ад маэстра.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# У атмасферы сімфаджаза



Дзяніс Мацуеў — адзін з тых піяністаў, якія актыўна гастралююць. Ён выступаў на адной сцэне з сусветна вядомымі амерыканскімі, нямецкімі, французскімі, брытанскімі калектывамі. У Мінск музыкант вяртаецца з новай праграмай і выступіць разам з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларусі. Канцэрт «І класіка, і джаз» адбудзецца ў Палацы Рэспублікі 19 лютага.

Народны артыст Расіі Дзяніс Мацуеў асацыюецца з традыцыямі рускай фартэпіяннай школы, неверагодный якасцю канцэртных праграм, а таксама з новымі творчымі канцэпцыямі і глыбокімі мастацкімі інтэрпрэтацыямі. Яго называюць адным з самых цікавых сучасных рускіх піяністаў. Для яго музыка была прызначэннем. Музыкант узгадвае, як у 3 гады ён без нот выканаў вядомую кожнаму мелодыю з праграмы «Время». Бацькі Мацуева адразу зразумелі, што звязаць жыццё з музыкай Дзянісу наканавана лёсам.

Пасля перамогі на конкурсе імя Чайкоўскага гэта зразумелі ўсе. Дзяніс не толькі папулярызуе фартэпіянную музыку сярод тых, хто яе ўжо любіць, але і спрабуе заахвоціць тых, хто не ведае, што гэта. Мацуеў працуе ў гэтым напрамку з моладдзю і ладзіць фестываль «Зоркі на Байкале». Таксама піяніст з'яўляецца арт-дырэктарам фонду імя Сяргея Рахманінава, дапамагае ў арганізацыі конкурсаў маладых піяністаў *«Astana Piano Passion»* і *DEBUT*. Ён звярнуў увагу і на талент юнага піяніста з Беларусі Вячаслава Хандогія.

Зараз музыкант дае больш за 200 канцэртаў у год, а гастрольны графік распланаваны на некалькі гадоў наперад. Нягледзячы на тое, што ў творчасці Мацуеў ужо даўно стаў «сваім», хваляванне перад выступленнямі яго не пакідае. Музыкант кажа, што хоць і чакае сустрэчы з мінскай публікай, але адчувае адказнасць, таму вельмі патрабавальна ставіцца да сваіх канцэртных праграм: хоча здзівіць публіку, якая чула яго выступленні ўжо не адзін раз.

Чарговы канцэрт у Беларусі музыкант хоча зрабіць нечаканым для публікі: канцэрт-сюрпрыз у атмасферы сімфаджаза. У першым аддзяленні Мацуеў выканае «Канцэрт № 1 для фартэпіяна з аркестрам» Чайкоўскага, а ў другім — «Рапсодыі ў блакітных танах» Гершвіна з уверцюрамі-фантазіямі Чайкоўскага. Дырыжыраваць аркестрам будзе заслужаны артыст Расіі Юрый Ткачэнка.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Блаславёная опера

## «Сівая легенда» як гімн любові: з Божай маці і па-беларуску

Гэтая опера на беларускай мове ў рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі з'явілася чатыры гады таму. І дагэтуль мае прыхільнікаў, якія гатовыя хадзіць на спектакль некалькі разоў. Але місія гэтага твора яшчэ і асветная: уводзіць у свет беларускай культуры, далучаць да яе нават праз складанае і высокае опернае мастацтва.

Таму опера «Сівая легенда» стала фактычна асобным праектам, які імкнуцца аздабляць дадатковымі імпрэзамі і акцыямі, якія б працавалі на карысць музыцы, тэатру і наогул айчыннай культуры. Напрыклад, 14 лютага перад спектаклем адбыўся своеасаблівы пралог, каб падрыхтаваць гледача да праслухоўвання сур'ёзнай музыкі сучаснага беларускага кампазітара Дзмітрыя Смольскага. У кантэкст беларускай культуры да пачатку спектакля ўводзілі музыкі з фальклорнага гурта *HardWood*. Гукі Сярэднявечча стваралі пэўны настрой, з якім лепш адчуваць падзеі, адлюстраваныя Уладзімірам Караткевічам, які сам напісаў лібрэта оперы. Але, здаецца, найвышэйшыя сілы на баку гэтага твора: у фае толькі на адзін вечар быў выстаўлены цудатворны абраз Бялыніцкай Божай маці — копія, створаная ў XVII стагоддзі. «Гэта адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі мы вывезлі абраз з музея, таму што такія творы трэба захоўваць у пэўных умовах, — патлумачыў Барыс Лазука, дырэктар Музея старажытнай беларускай культуры Акадэміі навук. — Але абразы ствараліся для людзей, каб яны маглі ля іх атрымаць сілу, напоўніцца добрымі думкамі, адчуць Боскую прыгажосць, прыйсці да развагі пра вечнае».

Да гэтых жа думак скіроўвае і твор Дзмітрыя Смольскага і Уладзіміра Караткевіча. Дзея, што пачалася ў фае, арганічна спалучылася з падзеямі, што потым адбываліся на сцэне. У антракце людзі падыходзілі да Бялыніцкай Божай маці і крыху ўзняліся над драматычным сюжэтам твора, дзе героі праходзяць праз пакуты на шляху адзін да аднаго. «Усё павінна быць добра, калі ёсць любоў», — супакоіла спагадлівай усмешкай Божая Маці з абраза, які аднолькава шануюць праваслаўныя і каталікі. Вельмі дарэчы ў кантэксце фіналу оперы. І прыклад таго, як розныя спосабы дапамагаюць далучыць да музыкі беларускіх кампазітараў.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Вялікае вяртанне

Бах, Вайнберг і класічныя джазавыя стандарты для аркестра — у адным канцэрце. «Ад Баха да джаза» Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь — чарговая нагода пачуць не толькі вядомую класіку, але і дакрануцца да мастацтва джаза і нібыта апынуцца ў Нью-Ёрку.

Пачатак вечара пройдзе пад знакам клавесіна: выбітная расійская клавесіністка, выканаўца старадаўняй музыкі Вольга Мартынава пазнаёміць публіку з творамі розных эпох — ад XVIII да XX стагоддзяў. Дарэчы, клавесін у Белдзяржфілармоніі не самы звычайны — гэта дакладная копія інструмента дзівоснай прыгажосці XVIII ст.

Падчас мерапрыемства таксама прагучаць Канцэрт для клавесіна з аркестрам Баха і Сімфонія № 7 для струннага аркестра і клавесіна Вайнберга. Гэта адна з лепшых сімфоній другой паловы XX стагоддзя, музыказнаўцы адзначаюць, што па пранікліваcці і глыбіні мала хто ў гэты час мог наблізіцца да такіх вышынь, і гэты твор — сапраўднае адраджэнне жанру *concerto grosso* на рускай глебе і без «гульні ў стыль».

Мечыслаў Вайнберг — адна з выключных персон у музычнай культуры нашых дзён, таму і цікавасць, і павага да творчай спадчыны кампазітара — каласальная. У XXI стагоддзі творчасць Вайнберга стала рэзананснай і для Еўропы, і для заакіянскай публікі. Варта ўзгадаць, што яго оперы ставіліся паўсюдна (у Варшаве, Франкфурце, Штутгарце, Нью-Ёрку, Дэтройце, Х'юстане, Маямі, Чыкага). Паралельна сімфоніі і камерныя ансамблі Вайнберга выконваліся ў розных гарадах Еўропы, ладзіліся фестывалі яго музыкі і выпускаліся кампакт-дыскі пад самымі вядомымі сусветнымі лэйбламі. Сачыненні кампазітара ўвайшлі ў рэпертуар найбольш значных еўрапейскіх музыкантаў эпохі.

Менавіта таму канцэрт можна прылічыць не толькі да ўзгадвання Вайнберга, але і да яго «вяртання». У апошні час творы кампазітара пачалі ўключаць у свае канцэрты расійскія музыканты, а зараз датычныя да гэтага сталі і беларусы: музыку Вайнберга ў нас можна паслухаць у выкананні ансамбля салістаў «Класік-Авангард», Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь.

22 лютага ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі можна будзе пачуць тыя творы Баха і Вайнберга, якія абавязкова прымусяць задумацца пра «вечнае», паразважаць пра жыццёвыя перыпетыі, даведацца пра музычныя традыцыі Польшчы, Ізраіля, Румыніі, Малдовы, Аўстрыі, Германіі. Эстэтыка гэтай камернай музыкі знойдзе водгук у кожнага слухача.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# «Халоднае» мастацтва

## Як у руках скульптараў лёд і снег ператвараюцца ў аўтарскія творы?



*Скульптар Павел Вайніцкі працуе над стварэннем кампазіцыі з лёду.*

Чалавек заўсёды чакае, каб на змену марознай, халоднай зіме прыйшла цёплая вясна. Таму, калі на двары люты, мы пачынаем лічыць дні да пачатку сакавіка. Аднак кожны месяц можа прынесці сваю радасць. Так, на выхадных у Батанічным садзе Мінска быў адкрыты Фестываль-конкурс ледзяной ды снежнай скульптуры «Свет крышталёў».

Фестываль ладзіўся ў Беларусі ў трэці раз. І вельмі зацікавіў жыхароў сталіцы, якія з вялікай ахвотай прыходзілі ў Батанічны сад убачыць неверагоднае відовішча. Гасцей фэсту цікавілі нават не самі скульптуры, а працэс іх стварэння. У фестывалі ўзялі ўдзел прафесійныя беларускія скульптары, якія стваралі творы выключна з лёду, і студэнты Акадэміі мастацтваў, архітэктурнага факультэта БДТУ і гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка, якія, аб'яднаўшыся ў невялікія калектывы, працавалі над кампазіцыямі са снегу. Аўтарам паставілі задачу — стварыць скульптуру за тры дні.

Студэнты ўдзельнічалі ў падобным мерапрыемстве ўпершыню, таму вельмі адказна паставіліся да арганізацыі работы і прадумвання дэталяў кампазіцыі. Многія з іх звярнуліся да міфалогіі. Так, напрыклад, дзве студэнткі гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка вырашылі адлюстраваць галаву Вялеса — аднаго з найвялікшых багоў старажытнага свету. Аўтары практыкаваліся ў адточванні навыкаў: спрабавалі найбольш вытанчана паказаць лініі, звярнуць увагу на плаўныя пераходы, паступовую змену аб'ёмаў кампазіцыі.

Прафесійныя скульптары, нягледзячы на досвед, падоўгу затрымліваліся ў Батанічным садзе, каб стварыць ледзяную скульптуру. У выніку адну з алей саду сёння ўпрыгожваюць Снежная Каралева ў выкананні Паўла Вайніцкага, венецыянская гандола Георгія Борздага, шыкоўная зорка, зробленая на беларускі манер скульптарам Аляксандрам Сакаловым…



*Фота Вікторыі Аскеры.*

*Ледзяная скульптура Аляксандра Сакалова.*

— Я імкнуўся паказаць васьміканцовую зорку, звязаную трыма ніткамі. У яе афармленні вы можаце бачыць вузлавы арнамент, які быў вельмі папулярны ў эпоху Рэнесансу, прысутнічаў у многіх культурах, у тым ліку ў нашай, — гаворыць Аляксандр Сакалоў. — Хацелася адлюстраваць узор архаічна. Складанасць стварэння ледзяной скульптуры залежыць ад этапу дзеяння. Працэс зборкі скульптуры вельмі цяжкі: ледзяныя блокі маюць вялікую вагу, таму іх складана падагнаць пад патрэбны фармат. З нарэзкай лёду няма вялікіх праблем. Аднак, каб нарэзаць якасна, трэба падабраць спецыяльны інструмент. На працягу трох дзён мы працавалі з раніцы да вечара, а гэта для стварэння скульптуры вельмі мала…

Вельмі захапляе зімовы пейзаж мастакоў Паўла Лявонава і Івана Арцімовіча, здаецца, такая кампазіцыя была б вельмі да месца ў тэатры ў якасці дэкарацыі. Мастакі хацелі захапіць гледачоў халодным спакоем, снежным чараўніцтвам і рамантыкай, якіх часта не хапае ў перыяд беларускіх зім.

Лёд — крохкі матэрыял, адзначаюць мастакі, патрабуе акуратнасці і дакладнага выканання тэхналогіі. Таму і праца дастаткова складаная. Скульптар Іван Арцімовіч адзначае:

— У многіх краінах мастацтва ледзяных скульптур дасягнула прафесійнага ўзроўню, аднак у Беларусі яго толькі асвойваюць. Калі навучыцца з ім правільна абыходзіцца, можна рабіць унікальныя аб'екты. Майстры ў нас, вядома, ёсць. Аднак калі ты большую частку творчага шляху працаваў з каменем, дрэвам, металам, лёд трэба адчуць, зразумець.

Дарэчы, напрыканцы мінулага года айчынныя скульптары Павел Лявонаў, Васіль Цімашоў і Максім Кацельнікаў узялі ўдзел у Х Міжнародным конкурсе лядовай скульптуры, які праходзіў у Магадане. Там мастакі занялі 3 месца ў намінацыі «Майстар». Скульптары стварылі кампазіцыю «Саюз Сонца і Зямлі», якая ўразіла калег скульптараў з Магадана вытанчанасцю, лёгкасцю, гармоніяй і дасканаласцю ў апрацоўцы дэталяў. У пошуках стылістыкі вобразаў творцы абапіраліся на традыцыйную беларускую выцінанку. На конкурсе ў нашых майстроў была магчымасць пераняць сакрэты майстэрства, падзяліцца знаходкамі і прэзентаваць беларускія традыцыі. Вельмі прыемна, што на далёкай магаданскай зямлі, дзе жыве нямала беларусаў, застаўся вобраз нашага краю.

— У Магадане развіццё ледзяной скульптуры як мастацтва прадугледжвае геаграфічнае становішча. Мы былі здзіўлены маштабамі, у якіх працуюць мясцовыя аўтары. У іх лёд — адзін з асноўных матэрыялаў, — расказвае скульптар Павел Лявонаў. — Мы прывыклі працаваць больш з каменем і дрэвам, нам зіма не дазваляе лёд выкарыстоўваць надта шырока. У Магадане да ледзяной скульптуры ставяцца вельмі сур'ёзна і адказна: выбудоўваюцца ледзяныя гарады, дзіцячыя пляцоўкі. Уразіла стаўленне да матэрыялу: у маім уяўленні лёд быў проста замерзлай вадой і не больш за тое. У Магадане паказалі яго глыбіню. Удалося папрацаваць са скульптарамі з Якуціі. Здзівілі навыкамі, паказалі тонкасці ледзяной ды снежнай скульптуры. Цяпер атрыманыя веды спрабуем выкарыстоўваць на нашым фэсце ў Мінску.

З пачатку тыдня створаныя мастакамі кампазіцыі дэманструюцца ў Батанічным садзе са спецыяльнай светлавой інсталяцыяй, якая яшчэ больш надае творам вытанчанасці і прыгажосці. Работы скульптараў можна будзе ўбачыць да канца лютага.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**Галіна БАГДАНАВА**

## Культурны ракурс



**Калі пад'язджаеш да вёскі Бездзеж Драгічынскага раёна, адразу кідаецца ў вочы Мемарыяльная калона XVIII стагоддзя, якая знаходзіцца на ўзвышшы праваслаўнага могільніка.**

**Помнік нашай гісторыі яшчэ нядаўна меў вельмі непрывабны выгляд, але ў 2012 годзе дарожную капліцу давялі да ладу, павесілі на чатырохгранным слупе абраз святога Мікалая Цудатворца і тры памятныя дошкі з чорнага граніту. На адной з іх выбітыя словы малітвы пра тых, хто падарожнічае да Госпада, на другой — «Вехі гісторыі Бездзежскага краю», на трэцяй можна прачытаць надпіс: «Дарожная капліца збудавана ў XVIII стагоддзі ў адзнаку вартасцей мястэчка Бездзеж як значнага цэнтра духоўнага жыцця на ўспамін пра шматлікія падзеі яго слаўнай гісторыі і ў блаславенне ўсім вандроўнікам, якія наведалі Бездзежскую зямлю».**

**У гісторыкаў няма адзінага меркавання наконт падзей, што папярэднічалі пабудове гэтага аб'екта. Адны лічаць: слуп быў узведзены ў гонар прыняцця Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 года. Другія сцвярджаюць, што ў гонар перамогі канфедэратаў на чале з гетманам Вялікага Княства Літоўскага Міхаілам Казімірам Агінскім над войскам рускага палкоўніка Албічава ў верасні 1771 года.**

**Святлана ЕРМАКОВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 16.02.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1620.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 560

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12









ISSN 0024-4686